ЛіМ
Літаратура і мастацтва
15 жніўня 2003 г. № 33—34/4219—4220

*"Я не знаю, што ўратуе свет..."* — новыя вершы Таісы БОНДАР 8



Літаратура на Беларускім радыё: у праграмах і асобах 12



*"Кроплі дажджу ў Парыжы"* — падарожнае апавяданне Адама ГЛОБУСА 14-15



Філарманічны сезон у сталічнай Зале камернай музыкі завяршыўся сольным канцэртам Уладзіміра НЕЎДАХА. Неўзабаве ён арганізаваў у Полацку Тыдзень касцельнай музыкі...

Працяг тэмы — на стар. 3

# З АНШЛАГАМ!





# КОЛА ДЗЁН

*6 жніўня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь разгледзеў шэраг кадравых пытанняў. Кіраўнік дзяржавы назначыў: Радзькова Аляксандра Міхайлавіча — міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь, Русакевіча Уладзіміра Васільевіча — міністрам інфармацыі Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад пасады Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Кітайскай Народнай Рэспубліцы. Адначасова ўказамі Прэзідэнта вызвалены Брыгадзін Пётр Іванавіч — ад пасады міністра адукацыі ў сувязі з выхадам у адстаўку, Падгайны Міхаіл Васільевіч — ад пасады міністра інфармацыі ў сувязі з пераходам на іншую работу.*

### ПОСПЕХ ТЫДНЯ

17-гадовы беларускі драматург Рыгор Цясецкі стаў лаўрэатам прэстыжнай нямецкай прэміі "Драма Дэ", а яго аднаактовая п'еса "Нямы паэт" была прызнана лепшым драматургічным творам краін Усходняй Еўропы ў 2003 годзе. Віншуем! Дарэчы, Рыгор Цясецкі быў адным з удзельнікаў Рэспубліканскага семінара маладых літаратараў Беларусі, які ў сакавіку гэтага года праводзіла Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва" сумесна з Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. На семінары творчасць Рыгора Цясецкага была высока ацэнена кіраўнікамі семінара і яго творы былі змешчаны ў часопісе "Нёман".

### ДАПАМОГІ ТЫДНЯ

У адпаведнасці з пастановай Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у нашай краіне на 8,9 працэнта павышаюцца памеры дзяржаўных дапамог сем'ям, які выхоўваюць дзяцей. Цяпер з 1 жніўня па 31 кастрычніка 2003 года аднаразовая дапамога ў сувязі з нараджэннем дзіцяці складзе 215 220 рублёў, а аднаразовая выплата жанчыне, якая стала на ўлік у медыцынскай установе да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці, — 107 610 рублёў. Сем'і, якія выхоўваюць дзіця ва ўзросце да 3 гадоў, у жніўні—кастрычніку будуць атрымліваць 69 950 рублёў штомесяц.

### ПАВЫШЭННЕ ТЫДНЯ

У нашай краіне ў гэтым годзе ўжо чацвёрты раз павышаюцца цэны на нафтапрадукты (апошняе павышэнне цэн было 8 ліпеня 2003 года). У адпаведнасці з загадам канцэрна "Белнафтахім" зацверджаны наступныя цэны на рэалізуемыя праз АЗС нафтапрадукты: бензін А-76 — 860 рублёў за літ, бензін АЗ-92 — 1070 рублёў, бензін А095 — 1230 рублёў, дызельнае паліва — 835 рублёў.

### НАЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Выканкам асацыяцыі "Беларуская федэрацыя футбола" назначыў на пост галоўнага трэнера нацыянальнай зборнай Беларусі па футболу Анатоля Байдачнага. 6 верасня беларусы праводзяць апошнюю дамашнюю гульню адборачнага цыкла ЧЭ-2004 супраць чэхаў, потым адразу заключны матч у Ціраспалі супраць малдаван. Трэба спадзявацца, што ў апошніх матчах з новым трэнерам нашы футбалісты пакажуць выніковую гульню...

### ПРАБЛЕМА ТЫДНЯ

На пасяджэнні "круглага стала" дырэктар дэпартамента аўтамабільнага транспарту Міністэрства транспарту і камунікацый паведаміў, што аўтобусны парк нашай краіны амартызаваны на 70 працэнтаў і патрабуе абнаўлення. Аўтобусы, што сёння выпускаюцца нашым МАЗам, здольныя замяніць аўтобусы ўкраінскай і венгерскай вытворчасці. Выкарыстанне айчынных аўтобусаў дазволіць толькі на паліве скарацiць расходы на 48 працэнтаў.

### БЯДА ТЫДНЯ

У нашай краіне зарэгістравана больш 50 выпадкаў атручвання грыбамі. Два чалавекі памерлі. Найбольшая колькасць пацярпеўшых — 22 — зарэгістравана ў Гродзенскай вобласці. У Віцебскай і Брэсцкай абласцях, а таксама ў Мінску атруціліся па 11 чалавек. У асноўным звязана гэта з ужываннем ядавітых грыбоў. Словам, калі вы не ведаеце што за грыб знайшлі, то лепей яго зусім не браць...

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Размовы пра тое, што мінскае метро на лініі паміж станцыямі "Інстытут культуры" і "Пятроўшчына" выйдзе на паверхню, відаць, застануцца размовамі. Экспертыза, якая праводзілася на гэтай лініі, паказала, што гэта рабіць вельмі нявыгадна, бо вакол станцыі трэба было б пакінуць вялікую шумаахоўную паласу (па 100 метраў з кожнага боку). Гэтыя тэрыторыі нельга будзе застройваць ніякімі аб'ектамі, што супярэчыць генеральнаму плану Мінска і робіць праспект Дзяржынскага, уздоўж якога пройдзе гэтая лінія метро, непрывабным.

## БУДЗЕМ РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы! Вы, відаць, даўно заўважылі, што ў кіёсках часам зусім немагчыма купіць наш штотыднёвік. Гэта звязана не толькі з тым, што "ЛіМ" купляюць, але і з тым, што з кожным кварталам продаж штотыднёвіка ў розніцу скарачаецца. Таму варта "ЛіМ" выпісваць, тым больш, што падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні і ў любы час. Кошт індывідуальнай падпіскі на 1 месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў. Індывідуальны індэкс — 63856. Кошт ведамаснай падпіскі на 1 месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў. Ведамасны індэкс — 63857.

ПЛАНЫ

# АД ПІРАНДЭЛЫ — ДА КАРАТКЕВІЧА

***Першая сімфонія Алега Хадоскі з праграмнай назвай "Пакаянная" датуецца 1992 годам. Яе філарманічная прэм'ера адбылася пры канцы 90-х. А сёлетняй вясной гэты твор быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі за 2002 год. Дакладней, ганараваны аўтар: за напісанне і гэтай незвычайнай сімфоніі, прасякнутай алюзіямі з мастацкага свету П. Чайкоўскага, і яшчэ аднаго твора — "Усяночнай" для хору (1997 г.).***

Дарэчы, ногледзячы на жанравую і тэматычную разнастайнасць творчасці Алега Хадоскі, заўважаеш у ёй адметную агульнасць: нейкую "спеўнасць" нават інструментальнай фактуры, харавую поліфанічнасць аркестравай мовы. Заканамернасць? Гэты кампазітар, як мала хто з ягоных калег, літаральна спакроўлены з хорам, бо стала працуе артыстам знанай капэлы імя Р. Шырмы.

Ад ранняга опуса, кантаты "Песні Белай Русі" да складанай полістылістычнай Сімфоніі № 4 "Белая Русь" (antiremix), створанай ужо ў новым стагоддзі і ўпершыню выкананай летась падчас XIII з'езда Беларускага саюза кампазітараў, — немалая адлегласць, пазначаная такімі рознымі працамі, як аркестравая паэма "Сымон-музыка", "Літургія Іаана Залатавуста" для хору а капэла і балет "Залаты ключык", музыка да дакументальнага фільма "Сымон Будны" і вакальны цыкл "Умирающий костер" на вершы В. Брусава... Што да планаў, дык без іх жыццё творчага чалавека і ўявіць немагчыма.

*Акадэмічная харавая капэла* Беларусі імя Р. Шырмы пад кіраўніцтвам Людмілы Яфімавай рыхтуе прэм'еру харавога канцэрта А. Хадоскі "Памяці Альфрэда Шнітке" (на вершы М. Ламаносава, Г. Дзяржавіна). Запланаваны выпуск двух CD беларускай музыкі, куды плануецца ўключыць запіс Трэцяй сімфоніі, якую кампазітар прысвяціў памяці Франсуа Віёна, ды Камерную музыку для струнных і фартэпіяна.

"Шасцёра персанажаў у пошуках аўтара" на сцэне Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра — да гэтага спектакля паводле Л. Пірандэлы ў рэжысуры Р. Таліпава музыку пісаў А. Хадоска. Пэўна, творчы дыялог з Тэрпсіхорай аказаўся і плённым, і перспектыўным, бо цяпер кампазітар плануе папрацаваць менавіта ў жанры музыкі да тэатральных пастановак.

Які ж ён, аб'ект сённяшніх творчых захапленняў і пакут кампазітара? Легендарны. Рамантычны. Гістарычны. Загадкавы і таямнічы. Беларускі. Алег Хадоска піша музыку да будучага спектакля паводле аповесці У. Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха": сваю версію гэтага твора прапануе, разам з Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы, рэжысёр і аўтар інсцэніроўкі У. Савіцкі. Думаю, кампазітару асабліва няпроста, бо дасведчаная публіка будзе міжволі параўноўваць ягоную працу з музычнай атмасферай XIX стагоддзя, створанай у оперы "Дзікае паляванне караля Стаха", за якую яе аўтар, незабыўны талент У. Солтан, быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі: з абавязковымі побытавымі танцамі, лейтматывам вальса, прывідам жахлівых паляўнічых...

Восенню Алег Хадоска плануе прадоўжыць і педагагічную дзейнасць: не так даўно пачаў выкладаць у Беларускай акадэміі музыкі, свайго першага і пакуль адзінага вучня рыхтуе да кампазітарскай прафесіі.

Дарэчы, пачытаўшы нядаўні "ЛіМ" (за 1 жніўня), вы, напэўна, заўважылі, які ўдумлівы, адказны і ўдзячны вучань — ён сам: гэтак шчыра, дакладна і проста напісаць пра свайго Настаўніка, прафесара Анатоля Багатырова мог толькі чысты душою, добры сэрцам, багаты талентам чалавек.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

**ФОТА М. ЗАМУЛЕВІЧА**

МУЗЫКА

# ГРОДЗЕНСКАЯ «АКВАРЭЛЬ»

***Новы харавы калектыў на сцэне — заўсёды свята. Сімвалічна, што "Акварэль" азвалася на поўны голас увесну, калі квітнеюць сады і прырода радуе вока пяшчотнымі, празрыстымі, насамрэч акварэльнымі фарбамі.***

Стварыць хор акадэмічнага кшталту ў цяперашніх умовах — справа нялёгкая. Яна вымагае ад арганізатара-кіраўніка вялікіх высілкаў або, проста кажучы, самаахвярнасці. На такую справу адважылася Марына Петухова. Ёй удалося сабраць разам таленавітых людзей з усяго горада, розных узростаў і прафесій, падобных сваёй любоўю да мастацтва, жаданнем дарыць слухачам прыгажосць. Малады калектыў пачаў працаваць пры Гродзенскім абласным метадычным цэнтры народнай творчасці.

Гродна здавён славіцца сваімі харавымі традыцыямі. Тут пасля вайны доўгі час працавала Дзяржаўная харавая капэла, якая потым атрымала імя свайго стваральніка, Рыгора Шырмы. У нашы дні добра вядомыя такія калектывы, як "Гародня" пад кіраўніцтвам Ганны Стрыхі, "Дойлідства" на чале з Надзеяй Бульцэвіч і Уладзімірам Лябецкім. Мае шырокае прызнанне Камерны хор Гродзенскай гарадской капэлы, якім нязменна кіруе Ларыса Іконнікава. Ёсць акадэмічныя хоры і ў розных навучальных установах: педагагічным каледжы, музычным вучылішчы, каледжы мастацтваў, агульнаадукацыйных школах з музычным ухілам. Словам, падмурак традыцый — трывалы. Аднак, трэба расці. І, ногледзячы на аб'ектыўныя цяжкасці, удзельнікі "Акварэлі" апантаныя жаданнем узняцца да вышыняў мастэрства.

Канцэрт хору ў Новым замку парадаваў публіку яркім, запамінальным выкананнем твораў розных эпох і стыляў. У жанры духоўнай музыкі асабліва пранікнёна прагучалі хоры П. Часнакова. Хораша ўспрымаліся беларускія народныя песні "Янка-полька" ды "Лявоніха" ў апрацоўцы А. Атрашкевіч разам з маляўнічым абразком "Гаварыла поле шырокае" ў апрацоўцы Л. Захлеўнага. (Прытым, дырыжору ўдалося данесці да публікі манеру і характар беларускіх народных спеваў, а масціты творца Л. Захлеўны *і яго маладзейшая калега* А. Атрашкевіч, кожны па-свойму, раскрыліся як арыгінальныя інтэрпрэтатары народнай музыкі).

Вялікія выканальніцкія магчымасці даюць харыстам арыгінальныя і складаныя творы рускіх аўтараў. Ці часта мы чуем са сцэны харавую музыку на словы А. Вазнясенскага? Гэта адбылося дзякуючы выкананню хору "В одном вагоне — четыре гармони", напісанага пецярскім кампазітарам Б. Краўчанкам, аўтарам некалькіх опер і араторый. Уразіў і Канцэрт для хору "Руское веселле" маскоўскага кампазітара А. Кісялёва, прысвечаны яго настаўніку і сябру, выдатнаму беларускаму харавому дырыжору В. Роўду, першаму выканаўцу Канцэрта. Малады калектыў цудоўна ўвасобіў гэтае складанае і маштабнае музычнае палатно, у аснове якога тэксты народных песень, паказаўшы высокую культуру харавога ансамбля.

Адзначу адпаведны досвед і майстэрства хормайстра "Акварэлі" — М. Петуховай. Яна выдатна чуе партытуру цалкам, так і ў дэталях. Адчувае музычны стыль. Планамерна будуе музычную форму твора, умее дамагчыся ад спевакоў увасаблення яе задумы.

Тым часам народнапесенную стыхію змяніла духоўная музыка Моцарта. Кантраст — відавочны: *следам за 17-мі нумарамі а капэла* ў праграме прагучаў матэт В. А. Моцарта "Misericordias Domini" ў суправаджэнні фартэпіяна (акампанавала хору Ларыса Мяркулава). Журботныя інтанацыі нібы нагадалі слухачам пра тое, што чалавецтва атрымала шанц на ўратаванне цаной крыжовай ахвяры Ісуса Хрыста...



Пасля канцэрта хацелася пажадаць дэбютантам не спыніцца на дасягнутым, а іх мастацкаму кіраўніку — часцей уключаць у рэпертуар творы кампазітараў Гродзеншчыны. Удасканальванне і бесперапыннае абнаўленне не дадуць "Акварэлі" паблякнуць, страціць свой першасны веснавы каларыт.

**Віталь РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

КОНКУРСЫ

***З 15 мая па 30 верасня ў Мінску праводзіцца адкрыты маладзёжны конкурс на стварэнне кінапраектаў, прысвечаных нацыянальнай тэматыцы (зацверджаны загадам Міністэрства культуры РБ).***

# ГАЛОЎНАЕ — ГЭТА СЦЭНАРЫЙ!

Адна з галоўных мэтаў конкурсу (заснавальнікамі і арганізатарамі якога з'яўляюцца Мінкульт РБ, Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі, УП "Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм", РУП "Беларускі відэацэнтр", Дзяржрэгістр кінавідэафільмаў і кінавідэапраграм, Беларускі саюз кінематаграфістаў) — гэта садзейнічаць стварэнню новых арыгінальных сцэнарыяў мастацкіх кароткаметражных фільмаў, якія ў высокамастацкай форме адлюстроўваюць значныя падзеі гісторыі і сённяшні дзень, лепшыя традыцыі, абрады, фальклорнае багацце беларускага народа, раскрываюць духоўны свет чалавека. Трэба адзначыць, што нягледзячы на тое, што адкрыты маладзёжны конкурс на стварэнне кінапраектаў, прысвечаных нацыянальнай тэматыцы, праводзіцца штогод, журы ўжо другога па ліку Нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў не знаходзіць сярод ігравых карцін прэтэндэнта на галоўны прыз фэсту "Крыштальнага Бусла" ("За лепшае адлюстраванне нацыянальнай тэмы"). Што ж, у маладых пісьменнікаў Беларусі ва ўзросце да 31 года ёсць магчымасць выправіць сітуацыю, якая склалася сёння ў нацыянальным кінематографе. Прынамсі, літаратурныя сцэнарыі кароткаметражных мастацкіх фільмаў у 2-х экземплярах можна дасылаць па адрасе 220050, г. Мінск, вул. К. Маркса, 5 (аб'ём сцэнарыя не павінен быць вышэй за 30 старонак машынапіснага ці камп'ютэрнага тэксту, надрукаванага праз 2 інтэрвалы). Адзначым, што журы конкурсу, у склад якога ўвайшлі драматургі А. Дудараў, Ф. Конеў, старшыня праўлення Беларускага саюза кінематаграфістаў І. Волчак, начальнік упраўлення кінавідэамастацтва Мінкульта У. Купрыенка, кіназнаўцы А. Бабкова, В. Мядзведзева, Н. Фральцова, рэдактар УП "Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" Л. Пінчук, галоўны рэдактар РУП "Беларускі відэацэнтр" В. Ганчарова, галоўны спецыяліст аддзела сацыяльных праблем Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі К. Копелева, прымае рашэнне адкрытым галасаваннем. Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены 17 снежня — у Дзень беларускага кіно. Пераможцы конкурсу атрымаюць не толькі грашовыя прэміі, а таксама магчымасць увасобіць свае сцэнарыі ў кіно.

В. Б.

АКЦЭНТ

***Колькі сёння ў нас на Беларусі дыпламаваных арганістаў, вядомых сваімі сольнымі канцэртнымі выступленнямі? Давайце лічыць.***

# З АНШЛАГАМ!



Самы знаны — сталы музыкант, эрудыт і асветнік, саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, заслужаны артыст Канстанцін Шараў. У Канцэртнай зале Полацкага Сафійскага сабора плённа і творча працуе Ксенія Пагарэлая, якую таксама ведаюць у Еўропе. Прафесар фартэпіяна Ігар Алоўнікаў уражвае сваёй ігрой і як арганіст, да таго ж нярэдка — і аўтар транскрыпцый (пералажэнняў) для самага магутнага інструмента. Можна прыгадаць яшчэ 3-4 прозвішчы, і хіба толькі дзеля таго, каб гэты пералік не выглядаў надта лаканічным.

Зрэшты, дадалося да нешматлікіх нашых арганістаў яшчэ адно яркае імя: Уладзімір Неўдах. Імя ў музычным асяроддзі не новае, вядомае з пачатку 90-х. Прынамсі, тады быў надрукаваны ў "ЛіМе" яго праблемны артыкул пра стан арганаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У тыя ж гады з'явіўся першы, ім складзены, зборнік беларускіх касцельных песень. Тады ж малады арганіст паспяхова выступіў на фестывалі "Магутны Божа" і атрымаў званне лаўрэата Міжнароднага конкурсу.

Музычную адукацыю Уладзімір Неўдах набыў у Мінску. Прадоўжыў яе ва універсітэце знанага аўстрыйскага "горада студэнтаў" — Граца — паглыбіў досвед у мастацтве вялікіх эпох, у ансамблевым выканальніцтве, удасканаліў сваё майстэрства ігры на аргане. А вярнуўшыся пару гадоў таму на радзіму, актыўна ўключыўся ў канцэртнае ды фестывальнае жыццё. Цікава, што менавіта Неўдаху давялося восенню 2002 года правесці першы арганны канцэрт філарманічнага сезона ў Зале камернай музыкі, а 15 ліпеня таксама завяршыць сезон сольнай праграмай — з нязменным аншлагам!

Што было паміж тымі двума выступленнямі? Традыцыйны Міжнародны фестываль "Званы Сафіі" (Полацк). Сталічныя арганныя вечары, у тым ліку з удзелам аўстрыйскага настаўніка Уладзіміра — прафесара Ёгана Трумера, які прыязджаў у Мінск на ўрачыстасці з нагоды юбілею Беларускай акадэміі музыкі... Дарэчы, сам герой сённяшняга аповеду выкладае ў акадэміі, і першы плён яго педагагічнай працы ўвасобіўся ў красавіцкім канцэрце на Залатой горцы, дзе выступіў "Бахаўскі гурток" — ансамбль камернай музыкі ды арганісты класа У. Неўдаха.

Было калісьці ў Мінску вучылішча арганістаў. Мажліва, з класа гэтага маладога выкладчыка Беларускай акадэміі музыкі пачнецца доўгачаканае адраджэнне айчыннай школы арганнага выканальніцтва?

С. БЕРАСЦЕНЬ

ФОТА М. ЗАМУЛЕВІЧА

НАШЫ ВЫДАННІ

# «ПОЛЫМЯ» № 7

"Мы ўваскрэснем тым, што дух наш аддае..." Гэтым філасофска-ўзнёслым дэвізам сустракае паэтэса Таіса Бондар чытачоў сёмага нумара часопіса "Полымя". А потым аўтар трымае чытача ў паэтычным палоне з першага да апошняга радка.

*Як можна жыць,*
*не верачы ў сябе,*
*У род свой,*
*у народ свой хрысціянскі,*
*Што ў шчасці, у бядзе,*
*у барацьбе*
*Калі й шукаў чаго,*
*то Божай ласкі?*

Паэтычную эстафету працягвае Міхась Пазнякоў. Чалавеку баліць, а паэту баліць утрая — напэўна гэтае можна сказаць пра вершы Міхася Пазнякова.

У рубрыцы "Палымянскі дэбют" прадстаўляем Тацццяну Барысюк. І хочацца сказаць: Тацццяна ў пошуку, але ЯНА ўжо ёсць!.. З паэтычнымі перакладамі выступіў Іван Чарота. А гэта выдатныя пераклады з сербскай, украінскай, македонскай, славянскай, русінскай паэзіі. Чытаючы разумееш, што сапраўды першым было СЛОВА.

Юры Станкевіч прадставіў новую аповесць "Апладненне ёлупа". Ушанаваны аўтар зноў у пошуку, ён зноў з некім і з нечым не згодны. Станкевіч моцна грукае дзвярыма гісторыі, няхай сабе і не гэткай ужо далёкай.

Васіль Ткачоў разагнаўся ажно на дзве аповесці: "Пост", "Участковы і фокуснік". Зразумела, што міліцыянеры і іх праца заўсёды навідавоку, а вось фокуснік?.. Гэта, канечне, інтрыгуе...

Сяргей Кавалёў прадстаўляе п'есу: "Чатыры гісторыі Саламеі", а Міхась Кулеш два апавяданні: "Сын", "Дарога". І п'еса, і апавяданні, творы рознажанравыя, але чытаюцца на адным дыханні.

У раздзеле публіцыстыкі, крытыкі і літаратуразнаўства Мікалай Бандарэнка, Іван Капыловіч, Павел Гаспадыніч, Ксенафонт Лецка. У рубрыцы "Культура мовы" Алесь Каўрус прапануе чытачам, улюбёнцам і знаўцам беларушчыны, артыкул: "Калі ісці ад свайго".

"Дзядоўнік на Парнасе" Георгія Юрчанкі прысвечаны двум Анатолям: Бароўскаму і Кірвелю. Калі смешна, то сапраўды смешна, і справа не толькі ў Анатолях...

Віктар ПРАЎДЗІН

НАДЗЁННАЕ

# ПАТЭНЦЫЯЛ ЧАЛАВЕКА— БАГАЦЦЕ НАРОДА

**Не ўтойваючы, шчыра прызнаюся, прыемна было пачуць чарговую справаздачу Камісіі ААН па індэксу развіцця чалавечага патэнцыялу. У спісе ўсіх краін свету, згодна інтэгральнаму паказчыку, вылічанаму экспертамі ААН, Беларусь лідзіруе сярод краін СНД (53 месца ў свеце). Безумоўна, хацелася, каб наша Айчына была ў першай дзесятцы, бліжэй да Нарвегіі, якая займае першае месца, але ж трэба аддаць належнае і пяцьдзесят трэцяму месцу. Калі браць краіны, з якімі давялося разам стартаваць у дзевяностыя гады, а гэта ўсе рэспублікі СНД, то можна ўпэўнена сказаць: Беларусь ідзе ў лідэрах. За ёй – суседка Расія, Арменія, Украіна.**

**Яшчэ некалькі гадоў таму сярод мадэляў развіцця грамадства дамінавалі тыя, у якіх асноўны акцэнт рабіўся на эканамічны рост і спосабы яго паскарэння. Лічылася, што дасягненне эканамічнага росту аўтаматычна цягне за сабой прагрэс у развіцці чалавека і грамадства цалкам. Аднак формула "эканамічны рост" = "развіццё патэнцыялу чалавека" не апраўдала сябе і насамрэч вылілася ў нарастанне сацыяльна-палітычнай нестабільнасці і беднасці насельніцтва.**

**Дарэчы, у краінах сацыялістычнага лагера яна прывяла да крушэння пануючага дзяржаўнага строю. Таму ў канцы ХХ стагоддзя найбольш прывабнай стала канцэпцыя развіцця патэнцыялу чалавека, распрацаваная экспертамі Праграмы развіцця ААН, якая разглядае эканамічны рост хутчэй як сродак, чым канчатковую мэту развіцця патэнцыялу чалавека. Канцэпцыя прыводзіць да высновы, што асноўнымі паказчыкамі трэба лічыць не толькі ўнутраны валавы прадукт краіны, але і параметры, якія характарызуюць здароўе нацыі і пісьменнасць.**

**Што тычыцца Беларусі, то на высокі ўзровень індэкса чалавечага развіцця таксама паўплываў адносна высокі ўзровень нацыянальнага даходу на душу насельніцтва па парытэту пакупной здольнасці.**

**Гэта пацвердзіла і прадстаўніцтва ААН у Мінску. Так у прэс-рэлізе гаворыцца: "Беларусь устойліва трымае першае месца сярод краін СНД па індэксу чалавечага развіцця. Яна працягвае захоўваць высокі ўзровень адукацыі і добра развітую сістэму аховы здароўя".**

**Як тлумачаць міжнародныя арганізацыі, розніца паміж узроўнем развіцця краін толькі на адну трэць вызначаецца эканамічнымі паказчыкамі, а на дзве трэці – узроўнем і якасцю адукацыі.**

**Што тычыцца ўзроўню пісьменнасці ў нашай краіне, то ён, зноў жа, самы высокі сярод краін СНД. Аб гэтым паведаміў кіраўнік прадстаўніцтва ААН у Беларусі Ніл Буне. Паводле яго слоў, высокі ўзровень ахопу насельніцтва пачатковай, сярэдняй і вышэйшай адукацыяй дазваляе лічыць, што наша краіна дасягнула адной з васьмі мэт ААН у галіне развіцця – забеспячэнне агульнай пачатковай адукацыі.**

***Памятаецца, як у шасцідзесятыя гады мне даводзілася пасля ўрокаў у школе заходзіць з маці да суседкі, Ладашчанкі Галіны Васільеўны, і вучыць яе пісьму. У хуткім часе жанчына не толькі навучылася распісвацца, бо раней, замест подпісу, яна ставіла крыжык, але і пачала чытаць. Мне падабалася даваць урокі, паколькі адчуваў сябе больш дарослым, самастойным.***

**Сёння па ўзроўню пісьменнасці дарослых і моладзі, паказчыках паступіўшых дзяцей у пачатковую і сярэднюю школу, па колькасці студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў наша краіна на ўзроўні з іншымі развітымі краінамі Еўропы і ЗША. Пацвярджэнне гэтаму заваяваныя студэнтамі і школьнікамі прызавыя месцы на міжнародных алімпіядах.**

**Яшчэ адзін паказчык высокага прэстыжу ў свеце нашай вышэйшай адукацыі — гэта вучоба іншаземных студэнтаў у беларускіх навучальных установах.**

**Беларусь – адна з нешматлікіх краін СНД, дзе рыхтуюць высокакваліфікаваных спецыялістаў па ўсіх напрамках дзейнасці аховы здароўя чалавека. Сёння медыцынскую дапамогу насельніцтву аказваюць больш за 44 тысячы дактароў і звыш 123 тысяч сярэдняга медыцынскага персаналу, у краіне працуюць усе бальнічныя і амбулаторна-паліклінічныя ўстановы.**

**Гэтыя і іншыя прыклады гавораць аб тым, што калі ў будучым максімальна развіць патэнцыял чалавека, калі правільна сплянаваць макраэканамічную палітыку, то ў перспектыве Беларусь можа паспяхова вырашаць эканамічныя праблемы.**

**Аналітычная справаздача Сусветнага банка для 192 краін паказала, што на долю фізічнага капіталу прыходзіцца ў сярэднім 16 працэнтаў нацыянальнага багацця, вядучую ролю для большасці (64 краіны) па-ранейшаму складаюць чалавечыя рэсурсы. Перавага чалавечага патэнцыялу асабліва прыкметна ў краінах з высокім узроўнем даходу, слабай рэсурснай базай, напрыклад, Германіі, Японіі, Швейцарыі, дзе паказчык складае да 80 працэнтаў агульнага аб'ёму нацыянальнага багацця.**

**Віктар ПАТАПЕНКА**

ІМПРЭЗЫ

## ДАКАЦІЎСЯ "БАЗАР"...

...Аж да Германіі! Тут, у Франкфурце-на-Одэры, горадзе-пабрацiме Віцебска, у сярэдзіне жніўня плануецца правесці шэраг канцэртаў з удзелам папулярных эстрадных беларускіх выканаўцаў. Іх злучыла "Рэха "Славянскага базару ў Віцебску" — тэма і назва новага міжнароднага праекта.

**Я. КАРЛІМА**

## НА ХВАЛЯХ РАДЫЁ

Цікавыя суразмоўцы, новыя творы чакаюць радыёслухачоў у аўтарскіх праграмах "Брама", "Авансцэна", "Палітра", "Сентыментальнае паляванне". У прыватнасці, у праграме "Брама" пойдзе размова пра беларускі дэтэктыў і новую кнігу Віктара Праўдзіна "Шлях да Галгофы", якая выйшла толькі што ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Пачатак аўтарскіх праграм, якія гучаць у аўторак, сераду, чацвер і пятніцу, — у 22 гадзіны 30 хвілін.

У суботу з навінамі літаратурнага жыцця знаёміць "Літаратурны праспект" (10.45), а ў праграме "Клас і К" — сустрэча з цікавым суразмоўцам (16.15). І штодзённа акрамя выхадных — "Кароткія гісторыі", з якімі вы можаце сустрэцца у 12 гадзін ночы.

І яшчэ звярніце ўвагу на перадачу "Канцэртная зала", якая гучыць у нядзелю, у 21.30. Частка яе прысвечана шэдэўрам айчыннай і сусветнай паэзіі.

Цікавая і разнастайная палітра літаратурных перадач і на канале "Культура". Працягваецца чытанне ў прамым эфіры рамана Янкі Брыля "Птушкі і гнёзды". "Літаратурны аўторак" з Галінай Шаблінскай прапаноўвае нямала цікавых сустрэч з 14.10 да 18.00 гадзін.

У суботу — паўтор праграм "Сентыментальнае паляванне" (9.00), "Гаспода" (10.10), "Брама" (15.45), "Галасы XX стагоддзя" (18.20). У нядзелю ў 18.30 — паўтор праграмы "Палітра", а ў 19 гадзін — "З фондаў радыё". А. Рыбак. "Трэба было жыць". Радыёспектакль. М. Горкі "Зыкавы". Радыёкампазіцыя спектакля.

## РАДЗІМА ПЕСЕНЬ — МАГІЛЁЎШЧЫНА

Шмат песень нарадзілася на Магілёўшчыне: ёсць тут свае кампазітары. Нездарма ж 20 гадоў таму пры Абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці і культасветработы быў адкрыты клуб самадзейных кампазітараў.

Ідэю стварэння такога клуба прапанавала хормайстар АНМЦ, выхаванка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (цяпер — акадэмія музыкі) Валянціна Пруднікава. А першым яго кіраўніком стаў вядомы прафесійны кампазітар Уладзімір Браілоўскі, цяпер дырэктар абласной філармоніі. Сёння клуб узначальвае выкладчык магілёўскай ДМШ №4 Яўген Маланкоў, выпускнік мясцовага музычнага вучылішча.

Аснова клуба — музыканты, выпускнікі Беларускай і Маскоўскай кансерваторый, Магілёўскага музычнага вучылішча і тутэйшага вучылішча культуры: Генадзь Багамолаў, Валянціна Шрамко, Валянціна Макеева, Аляксандр Кажурын, Уладзімір Рубанік, Уладзімір Глушакоў, Міхаіл Кастрыца, Галіна Сёміна, Уладзімір Громаў, А поруч — тыя, хто не атрымаў спецыяльнай музычнай адукацыі. Гэта і дырэктар Брылёўскага СДК Мікола Яцкоў, чый зборнік песень "Галінка бэзу" не так даўно пабачыў свет. І Леанід Ячнеў, настаўнік матэматыкі паводле адукацыі, заслужаны дзеяч культуры. Нягледзячы на свае 78, ён па-ранейшаму пры справе, кіруе хорам народнай песні і хорам ветэранаў вайны і працы Клімавіцкага раённага цэнтра культуры.

Свой клуб наведваюць сёння 20 самадзейных кампазітараў. Іх песні выдаюцца ў АНМЦ народнай творчасці і ў дзяржаўных выдавецтвах, гучаць па абласным радыё і тэлебачанні, уваходзяць у рэпертуар самадзейных калектываў і салістаў. Штогод упраўленне культуры гарвыканкама праводзіць конкурс на лепшую песню пра Магілёў, і ў ліку лаўрэатаў — Г. Багамолаў, Я. Маланкоў, В. Шрамко, У. Глушакоў. Дарэчы, уваходзіць у клуб і магілёўскі паэт Іван Пехцераў, на чые вершы створана нямала цікавых песень. За гады існавання клубаладзіліся вечарыны і канцэрты амаль усіх яго ўдзельнікаў. Асаблівую цікавасць у публікі выклікалі творчыя вечары Валянціны Макеевай і Барыса Магаліфа ў Горках, аўтара-выканаўцы Галіны Сёмінай, Аляксандра Кажурына ды Уладзіміра Стукмейсцера ў Магілёве, Віктара Шышкаўца ў Асіповічах.

Цяжка знайсці як двух аднолькавых людзей, так і кампазітараў. Ды ўсіх яднае клуб. І жыватворны агонь, які ёсць у кожным з іх, дорыць навакольным радасць далучэння да мастацтва.

Валянціна БОНДАРАВА



# СЛОВЫ ПРА СЛОВЫ

*"Пісанне — гэта тое, што называюць*
*працаю душы.*
*А пра гэтую працу ўголас*
*не скажаш, не распавядзеш. Пра яе*
*мы даведваемся, чытаючы радкі,*
*прасякаючыся*
*настроем аўтара, настройваючыся на*
*лад ягоных думак, адчуванняў. Так*
*адбываецца дыялог пісьменніка і чытача. Мажліва, самы інтымны,*
*прадуктыўны дыялог."*

Анатоль Сідарэвіч

***Упершыню ўвесь свой "вясковы адпачынак" у мамы перабыў, як яна кажа, не стукнуўшы палец аб палец — зранку збіралі з жонкай прапахлыя рафіямі і лёсамі, але нас на гэты момант захапляюць менавіта гэтыя — АЎТАРЫЗАВАНЫЯ, кананізаваныя пэўным чынам, няхай і вузкім колам людзей — інтэлектуалаў,эліты, прыхільнікаў. Адны іх абагаўляюць, іншыя асуджаюць. Але тым ЯНЫ і цікавыя — неарданарнасцю і неадназначнасцю. І тым, як яны глядзяць на гэты і якім бачаць і ўсведамляюць той свет. Нас прыцягвае ІХ зямная маральнасць і паднебны дух...***

***Падчас мы памылкова думаем, што мемуарыст адлюстроўвае пражыты ім час, яго грамадскія падзеі, характары, вобразы, тыпажы людзей таго часу і нарэшце сваё, дагэтуль заслоненае ад чужога вока, жыццё. адкрываецца перад табой, сведчыцца табе, больш за тое, змушае цябе на непажаданую ролю трацейскага суддзі, паколькі ад Бога ведаеш: не судзі і не судзімым будзеш...***

***Даволі часта разважаў я над няпростым пытаннем "уласнай чалавечай рэабілітацыі" перад сваімі нашчадкамі. Чым можна "замаліць" зло? Вядома — дабром. Але ці ёсць дабром наша слова, калі яно бясспраўнае? Калі чарговае слова, апроч як наступным словам, нічым не падтрымліваецца? Калі ў чалавечым зямным быцці адсутнічае жыццёвая дзея — своеасаблівае дабравесце... ТВОРЧАСЦЬ.***

***І яшчэ мне падумалася, што хоць і сілавым метадам, але можна аб'яд-***

***нерушам баравікі, якіх сёлета было, як надзіва — хоць касой касі — адразу за парогам бацькоўскае хаты, у прахалодным хвойніку, а вечарамі чытаў наўмысна прыхопленыя са сталіцы апошнія нумары літаратурна-мастацкіх часопісаў...***

***"Маладосць", "ARCHE", "Дзеяслоў"...***

***Як ніколі беларуская сучасная літаратура, услед за еўрапейскай, абрынулася ў глыбокі вір перажытых адчуванняў, успамінаў, пераасэнсавання мінулага і сучаснага...***

***І ўзварушаны вір чалавечай памяці забурліў, замуціўся, нібыта адтуль выцягвалі тапельца... Чужое, хоць і неабыякавае табе, жыццё, чужыя замоленыя і незамоленыя грахі і перажыванні... Узноўлены не зусім далёкі, а найчасцей вельмі блізкі ўчарашні час патаемнага людскога жыцця прынаць усе гэтыя суб'ектыўныя тэксты пад адной жанравай шапкай і паразважаць над іх вартасцю са свайго асабістага боку гледжання. (Маю на ўвазе "Дзённікі" Вячаслава Адамчыка ў "Маладосці" і "Arche", нізку ўспамінаў "З жыцця не выкрасліць нічога" Валянціна Тараса ў "Arche", эсэ "Абраннік сонечнага Феба" Анатоля Сідарэвіча, "Брат" Адама Глобуса, "Неспарадкаваная хата" Максіма Лужаніна і "А хто пісаў паэму гэту..." Францішка Ведзьмака-Лысагорскага ў "Дзеяслове".)***

***Чым найперш "забіраюць" чытача аўтары падобных тэкстаў? Безумоўна, не дакументальнасцю, не фактычнасцю, і нават не праўдзівым бытапісаннем, а ўласнай асабовасцю і даверам... Нам цікавы сам аўтар і ўсё з ім звязанае. Ёсць, вядома, аўтары з нашмат выбітнейшымі біяг-***

***У пэўнай меры ўсё гэта так, і менавіта такую задачу ён перад сабою і ставіць, але — незаўважна для сябе — аўтар вымалёўвае на тым фоне і свой сутнасны, праўдзівы вобраз зямнога чалавека, выяўляючы перад намі ўласныя адносіны і стаўленне да людзей, з'яваў і падзеяў апісанага ім часу...***

***Праўда, апошнім часам аўтары пайшлі "касяком" і, зразумела, што сярод іх усё менш і менш "кананізаваных". Зрэшты, паспрабуем разабрацца і патлумачыць сваё стаўленне да кожнага з іх. Вядома, на свой капыл... (І яшчэ, дзеля апраўдання мажлівага граху, шкодліва прызнаюся, што мне вельмі няпроста было "ўгаварыць" сябе напісаць гэты тэкст, паколькі я і сам з'ўляюся "калегіяльным саўдзельнікам" чарнавога накаплення падобнага жанру.)***

## ВЯЧАСЛАЎ АДАМЧЫК



Паўгода таму, здаецца, сустрэўшы каля фазэнды ТБМ самаўпэўненага і імпазантнага Адама Глобуса, ці то з Валянцінай Аксак ці то з Ганнай Кісліцынай, я быў агаломшаны яго катэгарычнай заявай, што ён рыхтуе публікацыю бацькавых дзённікаў ва ўсіх беларускіх літаратурных часопісах (1500 друкаваных старонак!), пасля якіх адбудзецца своеасаблівы "пераварот" у нашай літаратуры, ці, прынамсі, перамена поглядаў на некаторыя ўстойлівыя ў ёй яшчэ ад савецкіх часоў з'явы і рэчы (творы і творцаў). (А можа, тое мне казаў Валерка Булгакаў?.. Якая розніца.) Але я гэта адразу прыпомніў, як толькі прачытаў у першай жа абяцанай публікацыі "дзённікаў" Вячаслава Адамчыка пратэст адносна падобных сынавых пражэктаў: *"Адзін хітра-вужаваты "народны", што служыў усім уладам, пачаў зласнавата хваліцца, што яго дзённікі, якія ён друкуе, — гэта забаўка, імітацыя для адводу староннягa вока, а вось там... Намякаючы на сваю несмяротнасць, яшчэ дагаварыў: "Чытач адкрые..." А я пытаю: што? "Хаджы-Мурата"? "Боскую камедыю"? Ці ўсё тых жа фальшывых "Нёманскіх казачкоў"? Нельга ж махляваць перад Богам. У літаратуры нікога не абманеш. Толькі сам сябе. Напісаўшы лжывы раман пра вайну, можна апусціць шлагбаум, які заторыць дарогу да сусветнай хвалы і славы. Абняславіцца працей, чым праславіцца. Сталінскія прэміі, няхай сабе і трэцяй ступені, а калі-небудзь ды вылезуць бокам. Той жа ж, на першы погляд, неразважны чытач усё помніць."*

Агулам да "народных" у В.Адамчыка вельмі негатыўнае, калі не сказаць гідлівае стаўленне:

*"...узяў з шафы "Млечны Шлях" Панчанкі. І, дзіва, ніводзін верш не адгукнуўся ў сэрцы. Як за плотам, за калючым частаколам рыфмаў схаваўся паэт. Адна архаіка, паўторы даўно адспяванага яшчэ ў "Гарачых вятрах". Трохі непамысна і несамавіта, як ад заляцанняў старога дзеда";*

*"Разгортваю "Звязду" і бачу, як Гілевіч ператварыўся ў (Бялевіча) — такія ж самыя бездапаможныя і слабыя вершы";*

*"(...) Дадому ехалі праз ждановіцкія дачы. Я ўбачыў нялюдскі, без даху, двухпавярховы цагляны дом пад старымі бярэзінамі — дачу Быкава. Яна спланавана напэўна лепш, чым мая, але эстэтыкі, хараства ў ёй няма. Куды больш фацэтна глядзеўся дом нікому невядомага гэбіста Ягорава";*

*"Гэтак маўчаў Мележ, да якога няпрошанымі ўварваліся спярша Шамякін, потым — Чыгрынаў. Апошні нават падбадзёрваў, адпраўляючы на той свет Мележа: "Няма чаго, Іван Паўлавіч, хвалявацца: літаратура застаецца ў надзейных руках". Тады ён быў сакратаром Саюза пісьменнікаў і ствараў эпапею, перапісваючы жыўцом цэлыя старонкі са шматтомніка "Вялікая айчынная", нашпігаванага ілжывай і савецкай дакументалістыкай";*

*"Танк некалі выцікоўваў, хто колькі п'е і колькі мае каханак. Пэўна ад зайздрасці, што сам не дабраў. У яго была адна ахвота і прагнасць — ордэны і медалі. Іхні бляск яго спакушаў болей, як бляск жаночага сцягна";*

*"(...) Цяжка і трохі касалапа насустрач мне — адутлаваты, у рыжай, насунутай на вушы шапцы адзінокі Навуменка. Не размінуцца — павіталіся. (...) Я пайшоў, чуючы ізноў смяртэльны холад яго рукі"... "(...)Навуменка з праваленым ротам.(...)"*

Дасталося і іншым знакамітым і не надта... Адчуваецца ва ўсім гэтым і нейкая пэўная літаратурная — не, не творчая — а кан'юнктурная зайздрасць, што сыходзіць ад чалавечага самалюбства. Многае ж падаецца зразумелым, бо створанае Адамчыкам ні ў чым не саступае перапічаным народным, а некаторых і пераўзыходзіць. А служылі як бы адной "мамоне". Па-рознаму, вядома. Таму і розніца ў "рызніцах"...

А тут яшчэ гэтыя!

*"На праспекце сустрэў былых цэкоўскіх фюрэраў. Яны азіраліся на мяне, як ваўкі."* Азіраюцца, значыць, памятаюць. Як-ніяк — колішнія калегі, няхай і не вельмі ўдзячныя... Былі больш дасціпныя, як, да прыкладу, гэты *"(...) Цэкоўскі (...) Шабалін, тып адкрыта (...), спадзяецца вытаргаваць (...) яшчэ на пару гадоў рэдактарскае крэсла."* Але ж і сам Адамчык брыдзіцца *"ісці ў Дом прэсы, каб не напаткаць там (...) такога (...), як Ягуда-Ягоўдзік."* Як мы ведаем, менавіта Уладзімір Ягоўдзік прыйшоў на месца галоўнага рэдактара ў часопіс "Бярозка" замест Вячаслава Уладзіміравіча... Але найбольш мяне агаломшыла пададзеная як лірычная замалёўка вось гэтая сцэнка: *"У пластыкавую празрыстую бутэльку Чэсік укінуў вялікага зялёнага коніка. І паклаў бутэльку ў траву пад парэчкавы куст. Ідучы ў хлеўчык, я чую, што нешта скача — варушуцца трава і бутэлька. Зірнуў. Адно ж бачу: рудаватая жабка скача на бутэльку, у якой дагары нагамі паўзе зялёны конік. Лупатымі вочкамі пярэстая жабка паглядзела на мяне, але ад бутэлькі не ўцякла. Калі я адышоўся, яна зноў пачала "лавіць" коніка, адно лускала пластыкавая бутэлька."* І — пайшоў творца, а конік — найкрашшы вобраз жыцця Веліміра Хлебнікава — застаўся... У пластыкавай бутэльцы.

Таму ніколькі не здзіўляешся, што падобнае стаўленне да акаляючага свету не можа ў рэшце рэшт не адгукнуцца на ўнутраным свеце самога аўтара: *"Я абяссіліў сябе ўчарашняй злосцю, што ператварылася ў невыносную бяссонніцу. І вось пад нудны дождж сяджу спаралізаваны ўсімі болямі.*

*Занадта крыўдлівы стаў. Прымаюся да ўсяго. А для здаровага жыцця патрэбны дробка абыякавасці. Як дробка солі ў кожнай страве."*

Каб у чытачоў не склапася ўражанне, што ўсё гэта я прыводжу як асу-

джэнне занатаванага В.Адамчыкам у яго "дзённіках" (а наўздагон дадам яшчэ, што ўдосталь раздражняла мяне і "маніякальная" цяга аўтара да змены надвор'я, тэмпературы паветра і ўласнага цела (цэлы разварот "дзённікаў" у "ЛіМе"): *"У палове пятай, яшчэ хмурным прыцемкам, на градусніку было +9°С. Падсвечваў ліхтарыкам, каб убачыць крэскі"; "Няма дабра на свеце, няма і цяпла. +3°С. (...) ...у Гішпаніі тэмпература падымаецца ажно да 34°С. (...) ... на Гродзеншчыне — прымаразкі")* — скажу, што непрыўкрашанае людское жыццё і трымаецца на рознасці тэмператур чалавечага арганізма і акаляючага асяроддзя. Тут аўтара няма ў чым папракнуць. Ён — шчыры. Але — ці праўдзівы? (Праўда і шчырасць — паняткі розныя.) Таму выкажу, магчыма, крамольную думку: чым больш будзе ў нашай літаратуры падобнай непадробнай шчырасці, тым больш у нас будзе шанцаў для "высвятлення" як сваёй уласнай, так і нашай агульнай нацыянальнай сутнасці. А то прыкрыліся гэтай няўцямнай памяркоўнасцю, нібыта калгаснікі байкавай коўдраю, і нікому не відаць, чым жа мы там насамрэч ціха займаемся...

Вось, скажам, як, сам таго не заўважаючы, машынальна (і зноў жа — шчыра!) В.Адамчык выстаўляе сябе ў не зусім лепшым свеце, занатоўваючы праз дзень гэтыя два свае адчайныя запісы: *"(...) Учора папрасіў у сыноў: выдайце хоць адну маю кніжку. Не выдадуць. Міраслаў тут жа ж абязвечыў мяне: "Мы выпускаем тое, што купляецца. А тваю ж кніжку не прадасі";*

**"(...) Не прынёс уцехі і мой заход у выдавецтва "Мастацкая літаратура": кніжку ў друк не здалі.**

**Дырэктар, падрыгваючы ножкамі, рвецца, кажуць, (...)"**

Бачыце, сыны, разумныя, рвуцца ў вялікі бізнес, і не будуць выдаваць яго непрыбытковую кніжку, а выдавецтва, за кошт дзяржаўнага бюджэту, павінна выдаць яе ды яшчэ й ганарар заплаціць... Ды, раздумаўшыся, а чаму б і не — гэта ж грошы падаткаплацельшчыкаў, "спажыўцоў" культуры і літаратуры...

Аднак найбольш уразлівы, таленавіты і непадробны Адамчык у сваіх метафарычных запісах, ад якіх вее яго найлепшымі хрэстаматыйна-класічнымі творамі. Працытую тыя запісы без каментару чыста дзеля эстэтычнай насалоды.

*"Цяжкі грукатліва-рытмічны перастук далёкага таварняга цягніка ўрываецца ў адчыненае акно. Як зязюльчына ку-ку, што замірае ў глыбіні пералеску, так і гэты грукат, што скорае і аддаляецца, таксама хочацца палічыць";*

*"Бярэзіны (у гаі), раскалыханыя ветрам, як жанчыны ў бядзе, хіляцца, прыпадаюць адна да адной";*

*"Лісток за лістком, махаючы надзьмутаю, як падушка, фіранкаю лёгкі ліпнёвы скразняк гартае танюткі зборнік выбраных вершаў Юзафа Чаховіча. Князя паэтаў у міжваеннай Польшчы. (...) ...перачытваю яго ўжо другі дзень. (...) Мне блізкая музыка вершаў без знакаў прыпынку і вялікіх літараў, што нагадвае рэцэпт, у якім пазначаны адны зёлкі, ціша, імгла і гнеўнае неба.*

*О, як гэта непаўторна і праўдзіва: ...сена пахне сном."*

Адамчык-мастак і Адамчык-грамадзянін — гэта розныя, амаль чужыя адзін аднаму, людзі, воляю Госпада гарманічна ўвасобленыя ў адным чалавеку. І нездарма першаму, каб зжыцца з другім, сплочана Талентам.

Як бы ў тон мне піша і Анатоль Сідарэвіч у "Дзеяслове": *"...У мяне даўно не было такога ўзрушэння, як на пахаванні Адамчыка. Вячаслаў Уладзіміравіч (яго нае цела) быў абсалютна непадобны на сябе жывога, якім я яго ведаў. Каб не жонка яго ная, ня дзеці, я б каму чужому і ў іншых абставінах ні за што не паверыў, што гэта — Адамчык. (...) Калі я згадваю Вячаслава Адамчыка, яго ны вобраз — вобраз жывога чалавека — як бы засланяецца вобразам таго, каго я бачыў у дамавіне."*

**Я ж бачу яго жывога** — закончу я, утрыруючы апошні выдых Сідарэвіча па Стральцову.

# АНАТОЛЬ СІДАРЭВІЧ

Эсэ Анатоля Сідарэвіча "Абраннік сонечнага Феба" — гэта сённяшнія (запозненыя) разважанні над уласнымі ўспамінамі пра Міхася Стральцова, а разам з тым і над часам і людзьмі таго часу, пераважна калегамі-літаратарамі.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што калісьці жывога Стральцова як бы не заўважалі і маўкліва, хоць і спаважліва, абыходзілі, быццам нябожчыка, а цяпер — памерлага — уваскрашаюць для вечнага літаратурнага жыцця... Гэта практыка і, можна сказаць, традыцыя не толькі нашай культуры і літаратуры. Па аналогіі напрошваецца (зрэшты, мабыць, зарана, бо, дзякаваць Богу, пакуль жывы) у гэты рад і сам "мемуарыст" — вядомы беларускі гісторык, філосаф і крытык Анатоль Сідарэвіч. Асабліва ўражваюць яго публікацыі апошняга часу. І дарма многія з нас не заўважаюць і не надаюць асаблівай значнасці карпатлівай і плённай працы гэтага эрудыта і непараўнальнага літаратурнага аналітыка. Не помню, ці выдаваўся хоць адною асобнай кніжкай Анатоль Сідарэвіч. Прынамсі, у мяне такой няма. Не фігуруе яго прозвішча ні ў даведніках, ні ў акадэмічных літаратурных энцыклапедыях.

Успамінаючы і разважаючы пра планіду Міхася Стральцова, Анатоль Сідарэвіч знайшоў арыгінальныя, нетрафарэтныя сюжэтныя ходы, а таксама кідкую і, што немалаважна, зручную і цікавую форму падачы матэрыялу. "Рэабілітуючы", услед за іншымі, і "ставячы Стральцова на яго законнае месца", крытык абапіраецца на тагачасную творчае асяроддзе, на яго ных колішніх калег, выпадковых людзей у літаратуры і сяброў, заадно, далёка не адыходзячы, даючы і ім (што важна, абсалютна ненавязліва) адпаведныя і, відома, суб'ектыўныя характарыстыкі. Праводзячы ўмоўны, "віртуальны" пошук "духоўнікаў" Стральцова (тых, хто мог бы ў крытычны для яго момант падставіць пляччо і падтрымаць таленавіцейшага чалавека ў цяжкія перыяды яго несбалансаванага, дысгарманічнага жыцця), Сідарэвіч разумее, што гэта ўсяго толькі літаратурны ход, метафарычная марнасць, бо насамрэч духоўнікам (верным Санча Пансам альбо Дульсінеяй) паэту становіцца толькі яго Муза, як у прамым, так і ў пераносным сэнсе. У адным з гэтых сэнсаў Стральцову, на жаль, не пашчасціла. Затое сапраўдная Муза аддалася яму даастатку і была вернаю да канца. Ці заўжды быў верным ён? — пытанне адкрытае. І яно ўжо не наша, а вышняе...

Дык вось, знайшоўшы такі метад, каб паймення ахарактарызаваць ледзь не ўсё вартае ўвагі "стральцоўскае пакаленне" беларускіх літаратараў, Сідарэвіч падчас, на мой погляд, перабірае ў адназначнасці крытычных ацэнак, пераціскаючы ў праявах партыйнасці ды іншых літаратурных "ізмах", нібыта сапраўдны таленавіты творца можа хоць калі дачакацца "сваёй" улады, як тое бачна й па нашым часе...

*"І ўсё ж не буду параўноўваць Стральцова з канкрэтнымі яго нымі равеснікамі, — піша Сідарэвіч, — бо можа атрымацца так, што я ўзвышу Міхася Лявонавіча коштам прыніжэння іншых. Пра яго ных равеснікаў я напішу калі асобна. А тут заўважу, што для характарыстыкі грамадскае і эстэтычнае пазіцыі Стральцова дастаткова і таго, што ён, па-першае, не быў у ліку шумных франдзёраў канца 50-х — пачатку 60-х, што ён, па-другое, не ўступіў у КПСС і што ён, па трэцяе, не стаў сацрэалістам."*

Ак на маю думку, дык яўна **не дастаткова.** Бо хіба нельга быць прыстойным чалавекам і выдатным творцам, скажам, змушана коцячы перад сабой і гэткі "сізіфаў камень"? Вядома, можна. І ў падобных прыкладах няма недахопу, як у нашым, так і ў сусветным культурным і літаратурным атачэнні.

Хоць, у пераважнай большасці, усе характарыстыкі "мажлівых духоўнікаў" Стральцова даволі трапныя і ў меру аб'ектыўныя. Як, да прыкладу, гэтыя: *"Вячаслаў Адамчык быў надта сямейны чалавек, каб праймацца чыімі там праблемамі. Дый адчувалася: яны — Адамчык і Стральцоў — раўніва сачылі адзін за адным. Што ні кажы, а два выдатныя навелісты ў сваім пакаленні. У канцы 50-х на пачатку 60-х гаманілі найбольш пра іх";*

*"...з Чыгрынавым у Стральцова былі дзелавыя адносіны";*

*"Рыгор Іванавіч таксама не мог стаць духоўнікам свайму даўняму сябру. Бо — не арганізатар, не кіраўнік, бо, кажучы словамі М.Стральцова, "трохі мітуслівы";*

*"Бураўкін — арганізатар, кіраўнік, ён мог бы дапамагчы Стральцову, але (што зробіш?) ён быў чалавек статусны, у мундзіры, хоць і ў цывільным хадзіў. Дзень у яго распісаны, графік жорсткі. Быць духоўнікам такі чалавек не можа"...*

Словам, няхай сабе там-сям насуперак зададзенаму (не ўзвысіць "Міхася Лявонавіча коштам прыніжэння іншых"), але вобразны партрэт аднаго з найбольш таленавітых і адметных літаратараў беларускай літаратуры другой паловы XX стагоддзя атрымаўся без малога поўным і дастатковым, каб мець пра яго "заслужанае" ўяўленне. Хіба толькі вось "паколвае сардэчная думка": шкада, што позна.



Аднак, падобная "хвароба" ў дачыненні да сапраўдных талентаў хранічная і, відаць, невылечная... (Мажліва, такая воля Боская.) Гэта добра ведаў і ведае і Анатоль Сідарэвіч, але ж... і ён, прарочы прагматык краснага пісьменства, наш "неистовый Виссарион", таксама "заднім чыслом" змушаны вінавацiць сябе: *"...не так развітаўся з Міхасём Лявонавічам. Трэ было яму сказаць, што я заўсёды любіў у ім чалавека і мастака. (Ах, як мы саромеемся быць сентыментальнымі, баімся здацца смешнымі.) Адно спадзяванне: ён здагадваўся пра маё стаўленне да яго і яго нае творчасці"...*

Ды ўжо ж. І найлепш пра тое Міхась Лявонавіч сам і напісаў:

*Паядна́й пачатак і канец —*
*Азарацца памяці скляпенні,*
*Каб пад імі сталі папымнець,*
*Ясніцца мінулыя імгненні.*
*...........................*
*Мы адчуць іх можам —*
*не вярнуць,*
*З іх быццём*
*даступна-недаступным,*
*Іх, што ў дні аднолькава жывуць —*
*У мінулым, сённяшнім, наступным.*

*"Вось што трэба было загнаць у падтэкст. (...) Вось што, акрамя ўсяго іншага, павінна было адчувацца, трызніцца..."*

Ды як бы там ні было, А.Сідарэвіч, хоць і запознена, але напоўніцу "сплаціў" сваю даніну ўдзячнасці таленавітаму майстру, які ў адрозненне ад многіх з нас, меў сваю літаратурную пячатку. Не забудземся ж на яго і мы...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**(Працяг будзе)**

**ЗАХАРАВА, 19**








7 жніўня пасля невялікага перапынку, які быў звязаны з экзаменацыйнай сесіяй у студэнтаў і выпускнікоў школ, адбылося чарговае пасяджэнне суполкі маладых літаратараў "Літаратурны квартал". На гэты раз у "ЛіМ" прыйшлі Андрэй Ключнікаў, Усевалад Гарачка, Аксана Спрынчан, Наталля Кучмель, Таццяна Валаснік, Віктар Іваноў, Аляксандр Завадскі, Мікола Кандратаў, Зміцер Арцюх, Сяргей Патаранскі, Ігар Сіроткін, Ягор Конеў, Таццяна Барысюк, Павел Астравух і Таццяна Будовіч. Па традыцыі "па крузе" чыталіся новыя вершы, абмяркоўваліся, вызначаліся лепшыя, якія ў канцы пасяджэння зноў гучалі перад усімі прысутнымі. На пасяджэнні "Літквартала", якое адбылося ўчора, абмяркоўвалася сумесная лімаўская публікацыя Аксаны Спрынчан і Усевалада Гарачкі "Хто мы адзін аднаму".

Наступнае пасяджэнне адбудзецца 21 жніўня а 18 гадзіне ў рэдакцыі "ЛіМа".

# АКРЫЛЕННЕ ДУХОЎНЫМ І БОСКІМ

***Калі гаварыць пра энергетыку, ауру літаратурнага твора (ці паэтычнага зборніка), давядзецца канстатаваць: не так ужо і часта выходзяць у свет кнігі, якія "выпраменьваюць" святло і дабрыню. Браніслаў Спрынчан напрыканцы мінулага года выпусціў у выдавецтве "Мастацкая літаратура" кнігу лірыкі "Вербная неделя". Аура гэтага зборніка вершаў чыстая, прыгожая — бо лейтматыў кніжкі складаюць захапленне хараством, надзея на тое, што ў людзях, у грамадстве пераможа Высокі Пачатак... Магчыма, тут шмат ідэалізму. Але чамусьці хочацца верыць: так яно і будзе. Таму што Боскае перамагае заўсёды.***



Бронислав
СПРИНЧАН
**Вербная неделя**

По сваім ідэйна-тэматычным змесце зборнік падзелены на дзве часткі. У першай з іх паэт выказвае сваю любоў да Беларусі, расказвае чытачу, што ж значыць для яго родны кут, адлюстроўвае прыгажосць беларускай прыроды. Другая частка кнігі — публіцыстычная. Тут Б. Спрынчан спрабуе змагацца сваім паэтычным словам з адмоўнымі рысамі навакольнага жыцця: сацыяльнай няроўнасцю, бездухоўнасцю. Чытаючы радкі з "Вербнай недели", яшчэ больш паважаеш пачынальніка паэтычнай "дынастыі" Спрынчанаў — за тое, што ён (як гэта і належыць) усведамляе пачуццё адказнасці пісьменніка за кожнае вымаўленае ім слова. Не разбуральны, а стваральны пафас мае яго кніжка. Яна нібы заклікае свайго чытача прычасціцца ў велічным храме паэзіі.

Паэт усхваляваны ўспамінамі аб "малой" радзіме, яго натхняюць постаці Міхала Агінскага і Якуба Коласа, яму падабаецца адчуваць сябе сынам сваёй Бацькаўшчыны. І над усім пануе, валадарыць Яе вялікасць паэзія, якой Б. Спрынчан аддаў, можна сказаць, усё жыццё.

Родная Беларусь паўстае са старонак зборніка "Вербная неделя" ліпамі Коласа ў Смольні, вежамі Мірскага замка, краявідамі Заслаўя, белымі бярозамі, жытнёвымі палямі, малюнкамі народных свят і абрадаў, Налібоцкаю пушчай, чырванню каліны, жывапісам Ф. Рушчыца, вогнішчамі А. Савіцкага, зоркамі чыстага неба, вясковымі мадоннамі і крыніцамі... Гэта паэзія, якую не сорамна "прадэманстраваць" любому іншаземцу. Кожны радок яе народжаны вялікай любоўю да сваёй Радзімы...

Шчыра віншуем Браніслава Пятровіча з 75-годдзем. Жадаем яму і надалей здароўя, творчага неспакою і плёну.

С. Я.



# З БАГАТЫМ ЖЫЦЦЁВЫМ ВОПЫТАМ



Да гэтага часу помню яго даўнюю (яшчэ з 80-х гадоў мінулага стагоддзя) "карацельку":

*Расказваў Рак*
*Суседзям ганарліва,*
*Што ён запрошаны*
*На кухаль піва.*

Гэтыя радкі Уладзімір Мацвеенка надрукаваў у адным з першых сваіх зборнікаў пад назвай "Лекі без аптэкі" (1987), які выйшаў у бібліятэцы "Вожыка". Падумалася: калі чалавек гэтак адчувае свет, дык у яго і досціп ёсць, і талент маецца. Працаваў ён тады галоўным чынам у галіне сатыры і гумару, змяшчаў у "Вожыку" і іншых перыядычных выданнях свае байкі, вершы, карацелькі. Усе яны грунтаваліся на багатым жыццёвым вопыце. Уладзімір Іванавіч па нараджэнні мінчук (нарадзіўся ў 1928 годзе), у Мінску перабыў ваеннае ліхалецце, пасля вайны знаходзіўся на розных работах і пасадах і вучыўся, пакуль не здабыў дыплом медыка і не стаў дзіцячым лекарам. Апошняе і вызначыла яго творчы шлях як дзіцячага паэта. Ён здолеў стварыць цэлую нізку цікавых кніжак, адрасаваных маленькаму чытачу. Асабіста я ведаю яго не так і даўно, але паспеў пераканацца, што ён вельмі зычлівы, гуманны, пастаянна настроены на дабро, на сумесную працу з таленавітымі мастакамі, якія дапамаглі яму, — А.Каршакевічам, В.Губаравым, А.Гармазой, В.Галушкам, М.Казловым і інш.

Агульнавядомая, можна сказаць, думка: для дзяцей трэба пісаць таксама, як і для дарослых, толькі трохі лепш. Сказана гэта не без гумару, але вельмі правільна. Адказнасць пісьменніка вялікая: ён фактычна закладвае асновы мастацкага густу, усяго светапогляду чалавека. Пры дзіцячай даверлівасці густ, эстэтычныя ўяўленні можна папсаваць у самым пачатку іх фарміравання. Пісьменнік павінен глыбока ведаць псіхалогію, своеасаблівы склад дзіцячага мыслення.

"Дзіця, — казаў А.М.Горкі, — да дзесяцігадовага ўзросту патрабуе забавы, і патрабаванне яго біялагічна законнае. Яно хоча гуляць, яно гуляе ўсім і пазнае навакольны свет перш за ўсё і лягчэй за ўсё ў гульні, гульнёй. Яно гуляе і словам, і ў слове. Менавіта на гульні словам дзіця вучыцца тонкасцям роднай мовы, засвойвае музыку яго і тое, што філолагі называюць "духам мовы".

Эстэтычная паўнацэннасць — вось найпершае патрабаванне да дзіцячай паэзіі, тут патрабаванні да слова, гуку, рытму і г.д. павінны быць вельмі высокія. Тут патрэбна вялікае майстэрства. Бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што Уладзімір Мацвеенка ў значнай ступені валодае такім майстэрствам і, можа, не спадзяецца вытрасаваць свет, але хаця б за аднаго чалавека пазмагацца гатовы. Паэт абавязкова ўлічвае асаблівасці дзіцячага ўспрымання свету ў яго цэласнасці і маляўнічасці, у першародным свячэнні фарбаў, шматгалоссі гукаў і выразнасці пахаў, гульні і забаўнасці. Пагляздіце, як хараша ён умее пісаць гукам, рыфмай, як смела "каламбурыць":

*Косіць сена кашалот,*
*Паляцеў да зор янот.*
*Гэта праўда, ты мне вер,*
*А не верыш — дык праверь.*
*Калі я сказаў не тое,*
*Пасмяёмся*
*мы абое...*

**("Пасмяёмся разам").**

Ёсць у аўтара, згадзіцеся, нешта ад даўняга веселуна-скамароха, жартаўніка-пацешніка і ад мудрага дзядулі — выхавацеля, якога так моцна і аддана любяць унукі і праўнукі. Знешне Уладзімір Іванавіч і сапраўды нагадвае добрага беларускага доктара Айбаліта, але не толькі знешне. Пастаянная настроенасць на дабро, на дапамогу людзям, асабліва дзецям — нутраная і сутнасная рыса гэтага чалавека і тады, калі ён апранае белы халат, і тады, калі бачыш яго ў звычайным гарнітуры, сярод сяброў, у пісьменніцкім асяроддзі.

Як дзіцячаму лекару, яму нярэдка даводзілася і цяпер даводзіцца выпраўляць хібы артыкуляцыі, выпрацоўваць правільнае, прыгожае маўленне. Дзеля гэтага ён часта звяртаецца да скорагаворак і сам іх шмат стварае, як паэт, верачы ў сілу магічнага гучання слова. "Скорагаворкі, - тлумачыць Уладзімір Мацвеенка, - гэта вершы, з дапамогай якіх мы вучымся правільна вымаўляць усе літары нашага алфавіта". Удалых скорагаворак ў яго многа:

*Поля ў полі*
*Ля таполі*
*Сіні лён*
*Ад ранку поле.*
*Дзень палола,*
*Два палола,*
*Покуль клін перапалола.*

Часам скорагаворкі пераходзяць у загадкі:

*Што за кавалер, каторы*
*Мае рыцарскія шпоры?*
*Носіць на хвасце вясёлку,*
*Падымае ўсіх на золку?*

Такога тыпу паэтычнае гучанне выйшла з хтанічных глыбіняў мовы, з яе старажытных, дапісьмовых крыніц, якія сталі уласцівасцю нашага ўспрымання. У сувязі з гэтым успамінаецца выказванне славутага філосафа М.Хайдэгера, якое ён любіў паўтараць: "Мова ёсць дом нашага быцця". Уладзімір Мацвеенка настойліва асвойвае гэты "дом". Яго самабытнае паэтычнае майстэрства грунтуецца на народнай аснове, на глыбокім адчуванні унутраных законаў мовы, разуменні псіхалогіі ўражлівага дзіцячага характару.

Асабліва значна жанравы рэпертуар паэта пашырыўся у пачатку 90-х гадоў. Добры зборнік — "Загадкі Зайкі-загадайкі" (1990). Вельмі арыгінальная другая кніжка — "Азбука ў загадках" (1992), у якой шмат удач:

*Вы мне*
*Адкажыце,*
*Ці бачылі*
*У жыце*
*Ці ў полі*
*Улетку*
*Блакітную*
*Кветку?*
*Усміхаецца*
*Здалёк —*
*Гэта кветка*

**(В...)**

І якіх толькі загадак у паэта няма — у жанравым пашырэнні сваіх твораў ён нястомны. Вельмі каштоўная якасць загадак Уладзімір Мацвеенкі — талент гумарыста, заўсёдная настроенасць на жарт і досціп, а таксама імкненне да дакладнасці. Яны разлічаны на розны ўзрост, з цікавасцю над імі "паламае галаву" дашкольнік і школьнік, і не толькі самых малодшых класаў. Загадкі



У вольны час з жонкай, Інэсай Сяргееўнай.

Уладзіміра Мацвеенкі патрабуюць разумовага напружання, будзяць фантазію, выхоўваюць уменне думаць, аналізаваць:

*Белыя галубкі*
*Паселі на слупкі,*
*Лапак не маюць,*
*А дрот трымаюць.*

**(Ізалятары).**

Пазнанне свету і выхаванне ў творах Уладзімір Мацвеенкі неад'емныя ад усведамлення прыгожага і добрага. Дабрачыннасць трактуецца ім не толькі маральна, але і анталагічна, як бы яна складае сутнасць жыцця. Ён паэтызуе чалавечы розум, дабрату, сілу.

У 1995 годзе выйшла "Сябрынка" Уладзіміра Мацвеенкі — кніга, адзначаная Літаратурнай прэміяй імя Янкі Маўра. Уся кніга — шчырая, цёплая размова з чытачом. Пазнанне свету ў "Сябрынцы" адбываецца без залішняй дыдактычнасці, аўтар, відаць, добра памятае адзін з няпісаных законаў педагогікі: дзіця не павінна заўважаць, што яго вучаць. Выхаваўчыя намаганні трэба ўжываць у дасканалай, лёгкай мастацкай форме.

"Да пяці гадоў дзіця нічому не вучаць, але яно пазнае больш, чым потым за ўсё жыццё," — тонка, ва ўласцівай для яго парадаксальнай манеры заўважыў калісці Віктар Шклоўскі. Уладзімір Мацвеенка добра пра гэта ведае і імкнецца шырэй і ненавязліва, нязмушана пазнаёміць свайго маленькага чытача з навакольным светам.

"Свет, поўны дзівосаў," — так назваў свой артыкул пра паэзію Уладзіміра Мацвеенкі крытык Алесь Марціновіч, і гэта правільна. Салідны набытак Уладзіміра Мацвеенкі — ёмістая кніжка "Загадкі з хаткі дзеда Уладкі" (1999), у якой і загадкі, і вершыкі, і смяшынкі, і каламбуры. Яна населена шматлікімі персанажамі, прадметамі і рэчамі. Прадметы хатняга ўжытку, побыт, звяры, птушкі, праца, чалавечыя ўзаемаадносіны — паэт расказвае пра ўсё ў вясёлай дасціпнай форме, выкарыстоўваючы багаты арсенал самых разнастайных выяўленчых сродкаў.

Нельга не памянуць самым добрым словам жонку Уладзіміра Іванавіча Інесу Сяргееўну, якая, на жаль адышла ў іншы свет тры з паловай гады таму. Тонка адчуваючы роднае слова, яна дапамагала Уладзіміру Іванавічу ў творчай працы, стварала спрыяльныя ўмовы, была першым дарадцам і крытыкам на працягу многіх гадоў

Неўзабаве, у гэтым годзе, павінна выйсці новая кніжка паэта пад назвай "Дабранач". Веру, што гэта будзе добры падарунак маленькім чытачам. Назаўсёды прывабіла яго да сябе краіна дзіцячай паэзіі, і я рады, што Уладзімір Іванавіч Мацвеенка ў добрай творчай форме, што ў яго ёсць планы на будучыню, і нястрой на іх рэалізацыю, і ад яго яшчэ многага можна чакаць.

З юбілеем!

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**



З мамай, сястрой, жонкай і суседкай.

**УРАЖАННЕ**

# ГАРКАВАТА-САЛОДКАЯ «ЧЕСНОЧНАЯ ПЕСНЯ»

Перада мною кніга навелаў Алены Якаўлевай "Чесночная песня", якая выйшла летась у Мінску ў выдавецкім унітарным прадпрыемстве "Энцыклапедыкс". Хутчэй гэта аўтабіяграфічная аповесць, як вызначыла яе сама аўтар. Ведаючы Алену Якаўлеву як таленавітую паэтку, родам з вёскі, незвычайнай сваёй назвай — Ігрушка, што на Крупшчыне, падумалася, а ці за сваё ўзялася яна, маючы на ўвазе дакументальную прозу? І на самай справе, першыя старонкі твора насцярожылі: ідзе "апісанне" свайго "шчаслівага дзяцінства" (так сказана ў анатацыі да кнігі), якое аўтарка, у мінулым юная вяскоўка, штогод летам праводзіла ў Крыме. Там жылі бабуля і дзядуля па матчынай лініі. "О-го! Мне б такое маленства!" — ускрыкнуў бы ледзь не кожны хлапчук ці дзяўчынка савецкіх часоў (дзеянне ў кнізе адбываецца пад фінал знакамітай сістэмы). Дый не толькі дзеці ўсклікнулі б, бацька і маці гераіні таксама туды ездзілі... І "апісанне" тое адразу падалося школьным сачыненнем на вольную тэму, або "Як я правёў летнія канікулы".

Шчыра кажучы, і мне, які вырас у бясспраўным саўковым калгасе, у сям'і, дзе панавалі нястача і паўгалоднае жыццё, бо маці і бацька былі радавымі палляводамі — палевікамі, як называлі аднавяскоўцы, — стала, хоць і запозненa, крыху зайздросна: "Ну чаму ў мяне ў дзяцінстве не было гэтакіх жа сваякоў, да якіх можна было б паехаць у той жа Крым, адысці душой і целам, паспытаць паўднёвыя заморскія плады, якіх не бачыў ніколі ў вочы, пакуль не стаў студэнтам, а самае дзівоснае — пакупацца ў сапраўдным моры, ды яшчэ якім — Чорным!"

Вось, скажаце вы: ну і кніга — на якія думкі навяла... Так, а што зробіш? Такое маленства, як у мяне, тады было ў пераважнай большасці айчынных вясковых дзяцей. Што яны бачылі, акрамя штодзённага летняга "крулявання", як у нас казалі, над каровамі ды авечкамі, пад гарачым сонцам праполкі буракоў ды бульбы? А замест экзатычных паўднёвых пладоў, нас часцей раталі ад голаду лясныя ягады ды садовыя яблыкі, грушы, і то калі ўродзяць...

Вось такія спачатку з'явіліся ў мяне думкі — няхай прабачыць ужо аўтар "Чесночной песни". Як кажуць, не хацеў, ды стасункі змусілі. Урэшце, былі і "шанцунчыкі" — не толькі ездзілі ў Крым да сваякоў, ці "дзікунамі", але і дасягалі вяршыннай усесаюзнай дзіцячай аздараўленцыі — "Артэка".

Ды скончым з вымушанымі паралелізмамі — яны таксама не заўсёды ісціна ў апошняй інстанцыі. Дадзім слова самому аўтару: "Быццам на нейкае імгненне ў мае занадта мітуслівыя дарослыя будні пранік прамень дзяцінства і прымусіў зірнуць на ўсё вакол іншымі вачамі — так нарадзілася "Чесночная песня".

Часам чалавеку даводзіцца перад чужымі людзьмі здавацца лепшым, чым ён на самай справе і, наадварот, іншы на самых родных людзях разраджае сваё напружанне, на тых, хто яго любіць не за нейкія якасці ці дасягненні, а проста за тое, што ён ёсць. Вось і атрымліваецца, што многія быццам не заўважаюць ці не даражаць галоўнай каштоўнасцю — любоўю блізкіх.

Гэта аповесць прысвечана светлай памяці маім бабулі, дзядулі, а таксама дзядзькі, які пайшоў з жыцця вельмі рана.

Спадзяюся, кніга дапаможа больш уважліва прыглядзецца да сваіх родных і блізкіх. Бо ў кожнага з нас у душы свая "песня" — з гаркавата-салодкай мелодыяй, імя якой бязмежная чалавечая Любоў".

Ну вось, дзе ісціна, сутнасць кнігі, — зноў скажаце вы. І будзеце мець рацыю. Бо з першых да апошніх ста васьмідзесяці старонак аповесці меланавіта шчырасць, пранізлівасць душэўная, дакладнасць малюнка і слова падкупляе чытача. Алена Якаўлева нічога не хавае, а піша так, як усё адбывалася з ёй (а адбывалася прыўкрасна, кажучы словамі Уладзіміра Караткевіча) у атачэнні самых блізкіх людзей у пасёлку Маслава ў Крыме — дзядулі Андрэя, бабулі Матруны, дзядзькі Аляксея. Аўтарка амаль не выходзіць за межы гэтых імён у сваім аповедзе. Яна піша пра крымскую надворную гаспадарку дзядулі, хатні побыт, умельства бабулі, спрыт і гераізм дзядзькі (ён быў лётчыкам, служыў каля Джанкоя) так, нібы апавядае сваёй сяброўцы, якая сядзіць насупраць. Гаворыць усю праўду. І ў гэ-




та верыш. А галоўнае, увесь аповед аб'ядноўвае незвычайная любоў да самых блізкіх людзей. Яна ж, гэтая любоў, была некалі адваротнай. Некалі, бо не стане з часам ні бабулі, ні дзядулі, ні дзядзькі, і... ні таго ж Крыма. І ў гэтым увесь урок аповесці. І якія на пачатку я не праводзіў бы паралелізмы, яны тут ужо непатрэбныя. Бо на Зямлі, дзе б ты ні жыў — у тым жа Крыме, ці нават на Канарах, Гаваях — не бывае вечнага раю. Ён толькі на нябёсах. Застаюцца ўспаміны, салодка-балючыя, застаецца ўдзячная душа...

У канцы маіх "гаркавата-салодкіх" разваг скажу, што кніжка выйграла б больш, калі б у яе быў прафесійны рэдактар. Адсутнасць яго — бяда ўсіх недзяржаўных выданняў. Аўтарская рэдакцыя — як пазначана ў выхадных дадзеных "Чесночной песни" — не заўсёды апраўдана. У кнізе нават зместу няма, хоць у ёй больш за трыццаць навел. Два разы паўтараецца назва раздзелаў — "Бабуліны суседзі". Кніжка на рускай мове, але хапае беларусізмаў. Таму будзем чакаць яе ў беларускамоўным аўтарскім варыянце, тым больш, што яна вартая шырокай юнай чытацкай аўдыторыі.

**Яўген ХВАЛЕЙ**

Елена Яковлева. "Чесночная песня". "Энциклопедикс", 2002

# ДОМ, ЗБУДАВАНЫ УЛАДЗІМІРАМ БАТШАВЫМ

Памятаю маё шчырае падлеткавае здзіўленне, калі сакратар школьнага камітэта камсамола сказаў мне: "Ты напішы на сябе характарыстыку, а я падпішу. Толькі не надта хвалі". З тае пары шмат сплыло вады, і стаў я сведкам напісання шматлікіх самапальных і "інтравертных" характарыстык і рэцэнзій, і прыгадаўшы гэта, што пакінула непрыемны асадак у памяці, вырашыў адразу ж паведаміць чытачу, што пішу зараз не рэцэнзію, а кароткія нататкі з нагоды зборніка, які выйшаў у чэрвені сёлетняга года ў Франкфурце-на-Майне. Складальнік яго — Уладзімір Батшаў.

Адным з 19 аўтараў гэтай унушальнай 520-старонкавай кніжкі з'яўляюся і я. І гэта адна з прычын, чаму я пішу не рэцэнзію. Другая заключаецца ў тым, што выхад гэтага зборніка для ўсіх рускапісьмоўных літаратараў Германіі стала падзеяй большай, чым проста выхад кнігі. Тут, у Беларусі, кніга была б кнігай, напісанай добра ці не надта добра, сутыкненнем ці абдымкамі "бацькоў і дзяцей" спадкаемцаў Ерафеева ці Катаева... Адным словам, стала яшчэ адной кнігай у літаратурным Гольфстрыме расійскай прасторы, фактам літпрацэсу. І крытыкі гаварылі б пра такі зборнік, вызначаючы, што ён такое: мост упоперак ці ўздоўж ракі...

Уся рэч у тым, ва ўсялякім разе, я так гэта ўбачыў, што ў Германіі, дзе я цяпер жыву, ні ў кога з нас, эмігрантаў, няма роднай зямлі і таго паветра, якім толькі і можна надыхацца перад новым сваім аповедам ці аповесцю. Таму руская кніга такога роду (на маёй тутэйшай памяці яна першая гэткая) з'ява куды большая, чым кніга. Гэта падзея, што мае не толькі сацыяльнае значэнне, але нават, магчыма, і псіхатэрапеўтычнае. Калі пашукаць, у ацэнках знойдуцца і патрыятычныя адценні (у душах радзіма не памірае), і палітычныя (як-ніяк, а зборнік "працуе" на збліжэнне рускіх і немцаў у іх "фатэрляндзе"). Улічваючы колькасць рускамоўнага насельніцтва ў Германіі і непрыемныя адгалоскі старога часу ў сённяшнім жыцці краіны, зборнік зробіць свой унёсак у высакародную справу збліжэння і інтэграцыі. (Жывучы тут, я на поўную меру ўсвядоміў мудрае прадбачанне В. Гросмана і В. Быкава: яны гаварылі пра самае цяжкае перадоленне, якое чакае рускіх і немцаў пасля вайны — перадоленне нянавісці. Там, дзе ёсць нянавісць, немагчыма жыццё.)

Для мяне, як аднаго з аўтараў "Прозы—2003", зборнік стаў своеасаблівым бомбасховішчам, шчытам, бронекамізэлькай, выратавальным кругам... Домам, дзе жывуць "свае" людзі. Я апынуўся (зноў!) сярод сваіх, дзе ўсё і ўсе зразумелыя, як бы ні маскіраваліся за "спакойны" радок, як бы ні "псіхавалі" на паперы. У кніжцы жывуць "мае" чалавечыя клопаты, жарсці, боязі — ранейшыя, знаёмыя, толькі "На чужым полі". У аўтараў-жанчын ярчэй відаць вызваленасць ад "побытавых" путаў — мараль і маральнасць, каханне і жарсці, — упершыню за пражытае ўжо жыццё пайшлі разгульвацт па старонках. Нават "сарамотныя" комплексы — напаверх! Жанчына раней чуе водар вольнага мора. "Затем, что ветру і орлу, і сердцу девы нет закона!"

Пераважная большасць аўтараў — прафесіяналы, і з гэтае прычыны нават тое, што не зусім укладваецца ў тваё разуменне, успрымаецца з асалодаю: мова, яе




культура, павага аўтараў да "інструмента".

Часопіс "Литературный европеец" ужо шэсць гадоў выходзіць у Франкфурце. Яго стварыў і кіруе ім інтэлігент-эрудыт, літаратар-драматург, празаік, чалавек вялікай любові да Расіі, дысідэнт з "младых ногтей", што зведаў савецкую ссылку, Уладзімір Батшаў. "Л. Е." — сёння адзіны рускі літаратурны штомесячнік такога ўзроўню ў Германіі, запатрабаваны ў ЗША, Англіі і амаль ва ўсіх краінах Еўропы.

У нас ёсць свой літаратурны "Дом" у Германіі. Куды можна напісаць і дзе можна надрукавацца.

**Навум ЦЫПІС**

Брэмен, Германія

"Проза—2003". Произведения русских писателей в Германии. «Литературный европеец», Франкфурт-на-Майне, 2003.

# ПРА ЛЁСЫ ЛЮДЗЕЙ

**У літаратурна-мастацкім салоне "Сустрэчы на Замкавай" Гомельскай гарадской бібліятэкі імя А. Герцэна адбылася прэзентацыя кнігі Рыгора Андрэяўца "Белорусы в России", якая атрымала шырокі грамадскі рэзананс.**

Сімвалічна, што дзелавітасць, энергічнасць, уменне ладзіць творчыя і прадпрымальніцкія сувязі паміж самымі рознымі людзьмі і арганізацыямі дазволілі Рыгору Андрэяўцу заснаваць адзіны на Гомельшчыне рэгіянальны літаратурна-гістарычны і грамадска-культурны часопіс, і атрымаў ён назву "Палессе".

Творы тут друкуюцца на трох мовах: рускай, беларускай, украінскай.

За высокі ўзровень твораў галоўны рэдактар атрымаў Міжнародную прэмію імя Баяна.

Вяртаючыся да кнігі "Белорусы в России", трэба адзначыць, што ў ёй упершыню дадзены звесткі аб рассяленні беларусаў па ўсіх рэгіёнах Расіі, аб дзейнасці многіх беларускіх зямляцтваў і нацыянальна-культурных аўтаномій.

Кніга змяшчае 28 нарысаў аб вядомых прамыслоўцах, банкірах, прадпрымальніках, военачальніках, вучоных, пісьменніках...

Бадай, самы паэтычны з нарысаў — аб былым гамяльчаніне, на гэты час генеральным дырэктары акцыянернага таварыства "Роспищепром" Валерыі Іванавічы Жураўлёве. Яго дзяцінства і юнацтва прайшло на Палессі. Жураўлёў — незвычайнага лёсу чалавек, з незвычайнымі, рознабаковымі здольнасцямі: спартсмен і паэт, кухар і адказны работнік абльвыканкама. У маладосці ён сябраваў у той час з пачынаючым гомельскім паэтам Анатолем Грачанікавым, з якім ездзіў на яго, Грачанікава, радзіму — вёску Шарпілаўку. Пілі там ледзяны бярозавы квас са склепа, ласаваліся чарніцамі ў сасновым бары, захапляліся квітнеючым садам. Грачанікаў пазнаёміў яго з маладым, але ўжо вядомым паэтам Юрыем Фатневым. Разам са Станіславам Пракапенкам, камсоргам завода "Гомсельмаш", у далейшым генеральным дырэктарам, і паэтам Зміцерам Кавалёвым, які жыў у Маскве, яны пасадзейнічалі выхаду новага зборніка вершаў Юрыя Фатнева.

Валерый Жураўлёў, між іншым, быў дырэктарам знакамітай кандытарскай фабрыкі "Спартак"...

Цікавы лёс і ў намесніка генеральнага дырэктара навукова-вытворчай фірмы "Біо-Біз" Мікалая Чахлова. Тое ж нялёгкае дзяцінства, тая ж цяга да ведаў, тое ж імкненне зрабіць жыццё лепшым.

Герой другога нарыса — "Журавлиная пристань" — Георгій Казак, родам з Крупскага раёна Мінскай вобласці, кіраўніком трэста "Мосспецмоноліт" стаў у 35 гадоў. У тыя даперабудоўчыя гады гэта быў адзінкавы выпадак, калі на такой, можна сказаць, генеральнай пасадзе, апынуўся малады чалавек. Аднак сталася так, што ён перанёс два інфаркты і павінен быў адысці ад спраў.

Але насуперак усяму неўзабаве ўзначаліў буйнейшы холдынг "Інтэлект-сервіс", філіялы якога раскіданы па ўсёй Расіі, і які вядзе міждзяржаўны гандаль, у асноўным з Беларуссю. Аўтар кнігі знайшоў цікавую "запеўку" для нарыса. Ён прасачыў сувязі паміж казакамі Запарожскай Сечы яшчэ з часоў Рэчы Паспалітай і жыхарамі старажытнага сяла Грыцкавічы, дзе нарадзіўся герой яго твора.

Увогуле Рыгор Андрэявец захоплены гісторыяй. Са сваіх шматлікіх камандзіровак па розных рэгіёнах Расіі ён прывозіць рэдкія выданні гістарычных прац выдатных акадэмікаў, вучоных, пісьменнікаў.

Упрыгожваюць тэкст кнігі і надаюць яму рамантычную афарбоўку пейзажныя замалёўкі. І гэта невыпадкова. Праз усю творчасць аўтара праходзіць тэма непарыўнай сувязі з роднымі мясцінамі. Ён часта бывае на сваёй радзіме, успамінае аб ёй з любоўю і гонарам. Той куточак зямлі, яго родная Лоеўшчына, дапамагаюць яму перадолваць жыццёвыя нягоды, стымулююць у творчасці, не дазваляюць расслабіцца і "спачыць на лаўрах".

Наталля МАЛАШЭНКА,
загадчыца аддзела абанемента
Гомельскай цэнтральнай
гарадской бібліятэкі імя А. Герцэна.

ПАЭЗІЯ

Таіса БОНДАР



# «Я НЕ ЗНАЮ, ШТО ЎРАТУЕ СВЕТ...»

•

*Мелодыя Гендэля... Водгулле ўздыху*
*Малітвы душы, ці малітвы Зямлі...*
*І смуткам азвалася пространь, і ціха*
*Хіснулася неба ў мярэжы галін.*

*Бы хтосьці падслухваў, у голасе скрыпак*
*Учуўшы шчымлівую ноту любві,*
*Што не абрывалася ўскрыкам ці ўсхліпам,*
*А доўжыла ўздых, покуль ён не зацвіў.*

*Так, так, покуль ён не зацвіў у прасторы*
*Выяваю лотаса-храма душы.*
*Ці ж дзіўна, што ззяннем, надсонечным, горнім,*
*Музыка*
*скрыпічны канцэрт завяршыў!*

•

*Адзінота, сяброўка мая,*
*Прыжылася і ў доме, і ў сэрцы:*
*Ёй тужліва — бадзёруся я,*
*Я пажалюся — тая смяецца.*

*Як чаго нам зрэдчас не стае,*
*То вясновага зыркага сонца,*
*Каб раззяць спадзяванні свае*
*І ў святле іх углядзець Бясконцасць.*

*Хоць краёчак! – краёчак крыла,*
*Распасцёртага ў высі над намі...*
*Толькі ўзімку замала святла*
*І ў паглядзе самотным, і ў храме.*

*Ды яшчэ й не завершаны храм:*
*Дух узносіць малітву ў прастору —*
*Напярэймы не дням, а вятрам,*
*Што ляцяць да самотнейшай з зорак.*

•

*Прана... Чыстае паветра*
*З водарам бязмежнай сіні,*
*Дзе ад сонечнага ветра*
*Чэзне часу павуцінне.*

*Ні ўспамінаў, ні сумненняў,*
*Ні тугі па днях мінуўшых —*
*Срэбны бляск на бляклых ценях,*
*Срэбны звон над сонмам душаў.*

*Свет зямны і свет міжзорны —*
*У адным усплёску далі:*
*Змоўклі, зарыпеўшы, жорны,*
*Дрэвы лісце паскідалі,*

*Нівы выспелілі зерне*
*Запаведанага лёсу:*
*Ні вянца, ні руж, ні церняў —*
*Невядома, што збылося.*

*Што збылося? Што згібела?*
*Ні трывогі, ні ўспамінаў...*
*Срэбны ўзор на ўборы белым,*
*Срэбны плач бязмежнай сіні.*

•

*Крах Вавілона. Зноў — каторы раз! —*
*На чарапкі патрушчаны ўспаміны,*
*І, як змяя, мяняе скуру час,*
*Каб адляжацца ў схроне каранцінным.*

*Мо й адляжыцца, і музейны пыл*
*Развее над пустыняю Міжрэчча,*
*Над камянямі і касцьмі з магіл,*
*Якімі звяжа ў новы вузел вечнасць.*

*Мо й адляжыцца... На стары заклён*
*Не азірнецца памяць — і дарэмна,*
*Бо гінуў, а не згінуў Вавілон,*
*Адсочваючы шлях жрацоў нядрэмных.*

*Хто з іх сягоння на Зямлі і дзе,*
*Відушчы знае — знае і не скажа,*
*Збаяўшыся адкрыць праход бядзе:*
*Віна на тога, хто адкрые, ляжа.*

*І так і так не абмінуць бяды*
*Счарсцеламу ад нелюбові свету...*
*Год распачаты — з чорнай серады,*
*Крах Вавілона — кепская прыкмета.*

•

*Калдобіны, пні, каляіны...*
*Дзялі гэты шлях, не дзялі —*
*Пасланая Небам, павінна*
*Адолець прастору Зямлі.*

*Адолець і пехам, і духам,*
*Свабодным, бяздомным і тут,*
*Дзе нават пры ветры задуха,*
*Дзе шчасця няма без пакут.*

*Няма, бо няма супачыну*
*Ад чорных намераў і спраў:*
*Хто твар памяняў на лічыну,*
*Хто злосцю сябе пакараў.*

*А кожны ж прыйшоў па навуку*
*Няпростага росту душы!*
*Саперніцтва, здрада, разлука...*
*А шлях ужо круг завяршыў.*

*Да новае ўпартае спробы*
*Жыццё падагнаць пад сябе?*
*Дзікунства, насілле, Чарнобыль...*
*Зямля — як сляпы карабель.*

*Хто ў страху зажмурвае вочы,*
*Хто п'е без прасыпу, хто спіць,*
*Хто смерць пасля смерці прарочыць —*
*І як гэты міг запыніць?!*

•

*Салодкім напоем хлусні*
*Атручвалі многіх і ўсюды —*
*Адно свой імпэт падхлісні*
*Сумненнем ці страхам асуду.*

*І ў голаў не прыйдзе зірнуць*
*На чашу паверх акуляраў,*
*А ў ёй — да краёў — каламуць*
*Падмана, падманнае мары.*

*Тваёй або не — ўсё адно,*
*Абы яна сэрца хмяліла:*
*Глыток — і вызвоньвае дно,*
*Усмешка — і пеніцца сіла.*

*Не сіла, канечне, ды хто*
*Не быў у жыцці падманутым?*
*Запону смугі залатой*
*Адкіне не гэта мінута.*

*Калі ж ацвярэзяць гады,*
*Рахунак, прад'яўлены хлусу,*
*Развее спадзеўкі, як дым:*
*Ты ж сам захацеў, без прымусу...*

•

*У джунглях думак, дзе пануе змрок,*
*Цяжкі, дрымотны,*
*Ні кропель-зорак, каб запіць зарок*
*Начной самоты,*
*Ні ўсплёскаў-крылаў, каб разрэдзіць гул*
*Маўчання цемры*
*І ўскалыхнуць наўсцяж, па ланцугу,*
*Яе галеры.*

*Тут марна ўзгадваць сілу слоў ці рук,*
*Тут ноч варожыць,*
*І хто ўсчынае хаатычны рух,*
*Той беды множыць.*
*Здаецца, аніштo не ўсцеражэ*
*Душу ад згубы,*
*А чыйсьці кліч усё бліжэй, бліжэй —*
*І знаю: любы...*

*Змрок адпускае, мо ўсяго на міг,*
*А больш не трэба,*
*Калі і ноч і воля на дваіх*
*Пад зорным небам.*

•

*Многа гэта ці нямнога?*
*Далеч неба, цішыня,*
*Летні дзень, які дарогу*
*Дзесьці ў полі пераняў.*

*Поле чуе і не чуе*
*Спрэчку жытніх каласоў,*
*Песню ветра, што ўрачуе*
*І напрыканцы часоў...*

*Хто тут згадвае пра тое,*
*Што было, чаму не быць?*
*Спее зерне залатое,*
*Тчэцца сонечная ніць.*

*Дзе на ёй вузельчык сэрца*
*Я пакіну і калі,*
*Не ўзгадаць у паняверцы*
*Ні нябёсам, ні Зямлі.*

*І не гэта ўрэшце важна,*
*Калі сонца ўсё-ткі тчэ*
*Ніць, якой калісьці звяжа*
*Сцежкі дзён і сны начэй.*

•

*У смеха — смак аблаянага рая,*
*Не Бог, а скамарох пайсюль з вянцом...*
*Смяёмся над сабой? Ці дазваляем*
*Нячысцікам смяяцца над жыццём?*

*Угледзьцеся ў іх твары, ў іх ухмылкі,*
*Завучаныя, быццам з-пад хлыста,*
*У іх уменне так лінуць абмылкі,*
*Каб уціраца аніхто не стаў.*

*Няўжо не ўспыхне ў сэрцы абурэнне?*
*Такім, калі і ўродзіць — недарод,*
*А дай ім волю — выпаляць карэнне*
*І роду, і жыцця, што доўжыць род.*

*Ужо й цяпер нямала выгарае*
*Пад скамарошы дзікі смех і грай.*
*У смеха ж — смак загаджанага рая,*
*Хоць хто сягоння ўзгадвае пра рай!*

•

*Як важна паверыць сабе,*
*Свайму ўсёвідушчаму сэрцу!*
*Аковы не страх разаб'е,*
*А радасць — цяпер ці па смерці,*

*Калі гэта радасць жыла*
*У кожным учынку і слове*
*Святлінкай, часцінкай святла,*
*Патрэбнага ў светабудове.*

*Між страхаў, турбот і пагроз,*
*У згодзе з жыццём ці не ў згодзе,*
*Жыла, асвятляла твой лёс —*
*Не згасне і ў тонях стагоддзяў.*

*І ты, хоць не твой гэта шлях,*
*А рода твайго — і народа! —*
*Не згубішся ў зорных краях,*
*Не згінеш у змроку халодным.*

*Таму, што свой страх пабароў,*
*Праверыўшы згоду нязгодай,*
*А радасць — найбольшы з дароў*
*Усёлітасцівай Прыроды.*

•

*Божа мой, уразумі сляпых,*
*Што гадуюць не душу, а цела!*
*Столькі злосці, столькі пыхі ў іх*
*Тут, у гэтым свеце агалцелым.*

*Я не знаю, як ім памагчы,*
*Я не бачу, як спраміць дарогу,*
*Што блукае ў гушчары прычын*
*Так даўно, што прыручыла змогу.*

*Чорная ад стомы і тугі,*
*А брыдзе па тым жа самым крузе,*
*Па магілах, па рубцах магіл,*
*Сцягнутых, закручаных у вузел.*

*У спрадвечны вузел забыцця,*
*Што развяжацца Тваёю воляй...*
*Недзе ўжо малюецца працяг,*
*Некаму ўжо мроіцца прыволле!*

*Я не знаю, што ўратуе свет,*
*Я не бачу сполахаў надзеі,*
*Але хтосьці ўжо гукае ўслед*
*З далечы, з-за брамы цудадзейнай.*

# ДВА АПАВЯДАННІ

## ЯКІМ ПРЫГОЖЫМ БЫЎ...

Выратаванне ёсць! Мяне пакліча Ойча-Бах у палон гукаў, у бязмежжа Боскай чысціні і філасофіі святла, куды няма дарогі невідушчым, не прычашчоным чалавечае любові. Дасць адагрэцца сэрцам і душой... Дарую й я табе, ды потым. А зараз кажу...

Я кажу табе, што не люблю! Што аддалася апошні раз у няшчырым парыве толькі дзеля знішчэння сваёй гардыні і знявагі ўласнага гонару... Не спакушайся, не купляйся на гэта — усё было адмысловаю тэатральнаю ігрою. Якім прыгожым быў ты зусім нядаўна, калі я кахала цябе! Якім стаў, страціўшы маё каханне...

Твой нос і вусны, вочы і валасы, нахіл галавы і хударлявасць постаці стварылі некалі магічны вобраз, крывавую стрэмку маёй душы, лейтматыў нястомных думак, мелодыю маіх сноў. Як хацелася вінаграднай лазою апавіць гэтыя плечы, усяго цябе — ад ямачак вачэй да пругкіх мускулістых ног! Як доўга прыходзілася збіраць, выношваць мне сваю пяшчоту, як з'ядалі мяне нястрачаныя жаданні! Ды не было ў іх патрэбы. Ты сытым прыходзіў да мяне. Ты быў гаспадаром не толькі рэдкіх тэлефонных званкоў, кароткіх сустрэч, беглых пагляда́ў, ад якіх, закаханая і залежная, я вар'яцела. Ты быў гаспадаром маёй рэальнасці і мары, майго зроку і слыху, спакою і страсці. Ты эканомна размяркоўваў не толькі спатканні (з разлікам, каб не распесціць і каб не пасмела забыцца пра цябе), а і мой запал, мае пачуцці. Гаспадар мой, ты нават не заўважыў, што жанчына, якую ты лашчыў, ніколі не адчула сябе па-сапраўднаму шчаслівай ад твайго кахання. Ты не здолеў ні разу адпусціць мяне ў фантастычны палёт, бо быў захоплены толькі сабою. Ты ж дзеля гэтага прыходзіў да мяне. Здаволіўшыся, ты хуценька збягаў, пакідаючы мяне, недалюбленую і недалашчаную, і ўсё ж шчаслівую, бо я спяшалася да цябе зусім не дзеля гэтага, хоць... Як не ставала мне тваёй любові!

Ты прагадаў, ты ашукаўся, прыняўшы шал майго кахання за звычайны флірт сярэднестатыстычнай асобы жаночага полу. Як шкада мне цябе, задаволенага гнездавым шлюбам і ўпэўненага ў непарушнай "святасці" твайго сямейства, для поўнай ідыліі ў якім так не хапала дакоры твайго ўласнага сумлення. Салодкай дакоры ад здрады ідэальнай жонцы. І не зможаш ты ўявіць, як лёгка і гнюсна яна здраджвала табе са сваім плюгавым начальнікам. Як "рэгулярна" вывозіў ён яе на ўлонне прыроды, каб мець пад кустом яе цела. Як абвальваў яе на падлогу ў сваім кабінеце або цісну́ў да стала. А пасля гэтага яна з мінай выдатніцы на твары спяшалася ў ваша гняздо, каб на зыходзе дня "закалыхаць" тваю пільнасць, выканаўшы свой абавязак з табой, не любімым і не жаданым, супакойваючы сябе адной радасцю — ты правільны і паслухмяны, ты верны і клапатлівы муж. А заўтра... Заўтра начальнік зноў будзе ўпотай лапаць яе грудзі і мацаць каленкі.

Гавару табе — я не люблю цябе! З той самай пары, як адчула здрадніцкую боязь выкрыцця. Цябе бянтэжыла мая адкрытасць. А мне не было чаго хаваць — я кахала. Гэта ты — "гуляў". Я ганарылася, а ты — хаваўся. Я "ляцела" да цябе, а ты — краўся. Я чакала і жадала, а ты — разлічваў...

Мне шкада цябе. Ты гэтак апантана збіраеш па кроплі скарб сваім нашчадкам напэўна таму, што не можаш даць ім нічога лепшага. Ты не ўмееш быць шчырым і праўдзівым са сваімі дзецьмі. Ты не разумееш: галоўнай спадчынай нашым дзецям магла б быць свабода душы, вольнай нікога не баяцца і здольнай шчыра любіць.

Ты прымушаеш сябе думаць, што і зараз усё ў тваіх руках і цалкам залежыць ад тваёй волі, што ты па-ранейшаму гаспадар аднабаковай трагічнай гульні, хоць з трывогай заўважаў у люстэрку смяротны сум сваіх вачэй і неадноймы адчуваў успамін слодычы насычанага атрутай глытка. Мной пасеяна ў табе вечнасць, праз цябе прайшоў сусвет. Табе ўжо вядомы страх страты сутнасці. Інтуітыўна ты адчуваеш, што значыць — страціць МЯНЕ...

Міне час, аднойчы заснеш ты і... больш не прачнешся, і толькі на імгненне стане ясным і зразумелым табе, што набыў і што траціў і... ЯКІМ ПРЫГОЖЫМ БЫЎ, КАЛІ Я ЛЮБІЛА ЦЯБЕ!

## ПЕРАДАЙ ЭСТАФЕТУ

Не крыўдуйце на тых, хто перадаў эстафету, і на тых, хто чакае наперадзе, працягнуўшы руку. Не кожны разумее: галоўнае — не дабегчы, галоўнае — перадаць эстафету. Толькі не скалечыць бы ногі. Рубец угрызся ў жывое мяса, у аголены лопнуўшы мазоль, боль дастае да касцей, да самога сэрца. Пяройдзена мяжа, за якой фізічны і душэўны боль — адзіная адкрытая рана. Дабегчы б...

Як і той чэрвеньскі ранак, быў такі ж поўдзень. Па настроі сонечная, насычаная сапраўднай радасцю раніца: што жывеш, што патрэбен, што ўпэўнены ў існаванні розуму і дабра. Часовае — мінецца, не першы ж раз. І раней здавалася, што назаўсёды страціў яе, веру, але ж — вярталася, уваскрасала! Недзе дзенецца і зараз. "Рождённый радоваться — спасен будет".

Па настроі — ранак, постфактум — ноч. Чорная, страшная. Быццам не з табою здарылася, ты толькі назіральнік. Не тваё, не тваё ўсё — як заўсёды, калі "ноч", каб не захлынуцца ў вірах вусцішных глыбінь. Няхай не будзе такога больш ні з кім — чорны свет. Сонца ззяе ва ўсю моц, а свет — чорны-чорны! Ты адзін у ім, як пад векам труны, і ні шораху, ні гуку. І цябе самога няма, бо ўсё, што было — было ўчора. А заўтра не захочацца прачынацца, бо прачнешся ты ў незнаёмым жыцці, незнаёмым горадзе, доме, незнаёмым свеце, які сіроча стане чапляцца за цябе толькі напамінкам: тут жылі і любілі двое...

— Няўжо смерць некалі разлучыць нас? — шэптам напомніць падушка тваё пытанне.

— Не. Мы і там станем часцінкамі аднаго атама... — адкажа тваімі словамі падаконнік, на якім заўсёды стаяла попельніца. Вось тут, з левага боку. Яна і цяпер стаіць. Як стаяла раней, з недапаленай цыгаркай. Стаіць на сваім месцы, а нас няма. Мы ўжо не мы, а паасобку. І свет не перавярнуўся. І сонца ўзыдзе, як і ўчора, і зямля не спыніць свой ход, і людзі будуць спяшацца па справах... А нас няма — мы паасобку. І ты больш не баішся вышыні, і цябе вабіць палёт з высокага паверха. Нельга! Позна! Ты не толькі ты, а яшчэ і той, хто аддзяліўся ад цябе, ад твайго цела...



Цікава: "Я" дзіцяці, акрамя сябе, ўмяшчае шмат я-людзей, ад якіх яно залежыць. "Я" дарослага чалавека неадрыўна ад тых, хто залежыць ад цябе. Так што наша "Я" ніколі не бывае вольным, хіба толькі ў юнацтве. Ад іншых залежнасць аслабепа ці страчана наогул, а тых, хто залежыць ад нас, яшчэ небагата. Можа, таму такі дарагі гэты перыяд жыцця? (Міленькая, толькі помні — нельга! Скруха і туга — спакуса д'ябла. Ён жадае, каб ты забылася, які прыгожы свет. Як хораша ў ім жыць, любіць, радавацца. Адыдзе чарната і ты паглядзіш на ўсё зверху. Толькі так і трэба глядзець на свет...)

"Пчолка ўкусіла..." — такі шчыры пагляд. Мы не ўмеем ілгаць, мы такія чыстасардэчныя і прастадушныя! Не паказаў бы па глупстве, нібы пахваліўся! — нічога б не ўведала. І нічога не здарылася б? Няўжо даволі было не ведаць? Няўжо нейкая няўдалая хвілінка здольная мяняць лёсы? Глабальнае, не прыватнае, можна сказаць, светамаштабнае пытанне, амаль шэкспіраўскае: ведаць ці не? Не ведай — не існуе. І ўсё па-ранейшаму спакойна і прыстойна. Прызвычаіліся ж многія не ведаць і не пытацца: навошта жывём, чаму тут, што там... Але які ж гэта боль, калі ў галаве ёсць мазгі, а ў целе — душа!!!

Нішто не з'яўляецца на свет само ў сабе. Усё нясе з сабою антыпод. А іначай навошта і нараджацца, калі сабою задаволены? Вось табе і стварэнне свету: невыносны сум, гібенне і адзінота, і нясцерпнае жаданне роднае, падобнае душы... Выбух! Гэта лопнула цярпенне. Па сённяшні дзень недзе грукоча яго рэха, напамінаючы: будзьце цярплівымі! І нарадзілася падобнае, і закаханае, і нязмеранае, і не пакорнае, у гардыні свай няшчаснае...

"Пчолка ўкусіла" — назва вульгарная, як ва ўсяго, што не асвечана належнай таямніцай. Засос...за-СОС...СОС...СОС — спабаму дазволена быць бяссільным, ва ўсіх трагедыях крычы — СОС!!! А ты, хто не зміраны, закаханы, асобны; непакорны, у гардыні сваёй няшчасны? Тваё выратаванне — у табе у самім. Радуйся — ратуйся! Не крыўдуй на пчолку: яна збірае мёд... Здрада здаволілася, пра каханне пачуўшы — маё! (Міленькая, ты не можаш глядзець на яго, як на ўпаснасць. Ён твой брат па няшчасці. Любіць — гэта не чакаць, каб і цябе "налюбілі" роўненька на столькі, на колькі любіш ты...) Ой, як хочацца лятаць!!! (Міленькая — нельга! Ну вось ты мёртвая, цябе няма... А раптам тое, што зараз у тваёй душы, застанецца з табой назаўсёды, як безчасавае, вечнае? Табе не будзе лягчэй ніколі. Вось і няма цябе — уяві. Але табе пакінуты зрок, слых, рукі, ногі, душа — мёртвая ўстань, каб дапамагчы тым, хто побач з табой. Хоць бы таму, каму трывожна, бо адчувае, што з табою, спіць у цябе на руках...)

Пачні крыўдаваць на папярэдняга бегуна, што не па-людску перадаў эстафету — не дабяжыш. Каб жа ведаў хто, колькі сіл адбірае злосць! Яна найпершы памагаты ў разбурэнні. Пры стварэнні ж — наўрад... Эстафета — гэта яшчэ не творчы працэс. Галоўнае ж не дабегчы, галоўнае — данесці, не страціць, перадаць...

Разглядаць бы любую з'яву з касмічнай вышыні, а вырашаць — з зямной прастатой, каб не зблытаць боскае з кесаравым. Усё, што пакуль існуе, можа мяняцца, ператварацца, а знішчы... Цікава, ці мае такую ўласцівасць знішчанае?

Безумоўна ж, даравала. Лёс разумнейшы за нас, яму вырашаць, дзе той паварот, за якім скончыцца каханне. А пакуль маеш упэўненасць, што гэтаму чалавеку ты яшчэ не ўсё аддаў, — каханне жыве. Таму гордасці — забарона! Каханню — цвярозасць! А ў камп'ютэр лёсу — новыя звесткі: табе патрэбна асобнае жыллё...

Сухое, як пясок, паветра разрываючы тканкі так і не насычаных кіслародам лёгкіх. Другое дыханне прыходзіць толькі тады, калі перад гэтым правільна дыхаў — дабегчы б, дабе... А калі помста і недавер сумелі пасябраваць з табою? Не кожная душа здольна вытрымліваць трохтонны цяжар грахоў. "На ручкі! Вазьміце мяне на ручкі, пагладзьце па галоўцы, мне так хочацца паплакаць, зусім крышачку...." (Маленькая, не трэба! Люстэрка не раз паказвала табе, якім непрыгожым робіцца твар, і вочы,і вусны, калі жанчына плача. Ты нарадзілася жанчынай і больш за ўсё жадаеш ёй застацца...) А помста і недавер з табою пасябравалі, ды не кожная душа здольна вытрымліваць здраду сабе. І зусім мала кахання, і больш гардыні, і новыя звесткі ў камп'ютэр лёсу.

Аплявуха ўсё ж была... "Што ты натварыла?!" — "Не трэба фізічных распраў!" — "Што ты натварыла?!" — і смурод хмелю ў твар... Калі рукі апавіць вакол шыі таго, хто замахнуўся ўдарыць, біць цябе будзе нязручна — выпадковае, стыхійнае "вынаходніцтва"... Натварыла! Не змірылася, не стала ілгаць, міла падыграўшы табою прапанаванай гульні, каб потым усё па-старому, з новай хлуснёй. Адказала на зло злом, ператварыўшы яго ў зло ў квадраце. Думала: так лягчэй, прасцей — адпомсціць, забыцца і жыць па-ранейшаму. Нікчэмны міф! "Што ты натварыла?!" — і п'яныя слёзы па шчоках. Усяго толькі — не пагасіла зло, а ў кахання — жалоба, у гардыні — трыумф, а лёсу — работы да поту... лёс выдае табе "надзею", від на жыццё... без яго, ты чакаеш і верыш, і не ведаеш, што за тым паваротам не толькі "новае" жыццё. Там — жудасныя выпрабаванні, бо не кожная душа вытрымлівае здраду сабе. Вось толькі б дабегчы да... сябе...

Дабяжы, данясі, калі ўзяўся злучыць тое, што некалі разарваў той светапомны выбух, а выратаванне толькі ў ТАБЕ.

Людміла АНДЗІЛЕЎКА



# У РЫТМЕ ПОЛЬКІ

**Сёння слухаць добрую музыку для скокаў і застольнай бяседы не лічыцца нейкім "нізкім" мастацкім густам. Некаторыя крытыкі такую прадукцыю нават адносяць да спецыфічнага адгалінавання нацыянальнай музычнай культуры. Бо яе рытмы гучаць у паўсядзённым побыце, на радыё ў праграмах па заяўках, нават прыносяць камерцыйны прыбытак.**




Таму такая якасць музыкі, як дансантнасць (ад фр. Dansant — здатнасць да танчання) стала адным з патрабаванняў да твораў такога гатунку.

У Беларусі таксама даўно існуе катэгорыя нацыянальных шлягераў для бяседы і для танцаў. Думаю, што чытачы і самі могуць успомніць такія творы, як "Цячэ вада ў ярок", "Шэрая лашадачка", "Чарка аглаблёвая" і г. д.

Новым унёскам у танцавальна-святочную тэматыку можна лічыць выданне кампакт-дыска "Made in Belarus", які запісаны вядомымі беларускімі музыкамі Сафіяй і Алесем Лойкамі. На трэках слухач пачуе шырокавядомыя беларускія песні "На вуліцы грымата", "Ой ляцелі гусі", "Чапурушачка", а таксама міжнародныя ўсходнеславянскія фолк-хіты "Ты ж мяне падманула", "Ой хацела ж мяне маці..."

Як і належыць фальклорным апрацоўкам, тут сучасныя аранжыроўкі часцяком суседнічаюць з рытмамі вясёлай полькі. А танчыць польку на вёсцы ды ў горадзе — адно задавальненне!

Лірычную частку дыска складаюць такія вядомыя песні, як "Цвіце церан", "Цераз рэчаньку", "Колькі ў небе зор" (аўтар А. Шыдлоўскі), якія аранжыраваныя ў нетаропкім рытме лірычнага вальса.

І хоць на вокладцы дыска ёсць пазнака "Byelorussian disco", песні з яго апрацаваныя хутчэй у больш зручнай для слухачоў розных узростаў стылістыцы drum-n-bass. Розніца ў тым, што рытм disco — 120 ўдараў вялікага бубна "бочкі" за хвіліну. Ні больш, ні менш.

Але ж для слухачоў на свяце патрэбна разнастайнасць, каб песні былі мяккімі па гучанні, з разнастайнай рытмікай, з задушэўным выкананнем, як у выпадку з салістамі Сафіяй і Алесем Лойкамі.

Нягледзячы на пэўныя стэрэатыпы ў падборы рэпертуару песень, дыск пастаянна прыцягвае ўвагу слухачоў сваім яркім меладызмам, сучаснымі аранжыроўкамі, сваёй прыдатнасцю да танчання на свяце. Таму, відавочна, выдаўцы вырашылі паўтарыць наклад гэтага дыска. Хаця настае час для працягу цікавага і карыснага праекту.

Анатоль МЯЛЬГУЙ

МЕРКАВАННЕ

# «МАГУТНЫ БОЖЕ»?

**З нагоды XI Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа»**

***Упершыню пазыўныя гэтага фестывалю прагучалі летам 1993 года. А яго назва нарадзілася ад першага радка вядомага твора Міколы Равенскага на верш Наталлі Арсенневай. Сам жа гімн стаў музычнай эмблемай фестывалю і штогадова гучыць на яго ўрачыстым адкрыцці і закрыцці. З самага пачатку "Магутны Божа" даў новы імпульс адраджэнню і развіццю беларускай духоўнай музычнай спадчыны...***



У межах фестывалю праводзяцца конкурсы выканаўцаў музыкі духоўнага зместу, адбываюцца выступленні хораў, ансамбляў, салістаў-вакалістаў, а таксама канцэрты арганнай музыкі. Усяго за 11 гадоў у фестывалі "Магутны Божа" выступіла каля 8 тысяч выканаўцаў. Па традыцыі сёлета фестывальнае журы, як і ва ўсе папярэднія гады, узначаліў маэстра Віктар Роўда.

Вядома, не толькі конкурсамі харавых калектываў і салістаў-вакалістаў адметны кожны новы фестываль "Магутны Божа", але і выступленнямі яго гасцей. Непасрэднасцю і вялікай шчырасцю выканання джазавых апрацовак твораў кампазітараў-класікаў прыемна здзівіла вакальнае трыо «Таццяна» з Санкт-Пецярбурга, вылучаліся арыгінальнасцю выступленні ірландскага манаха Бёрна Сімуса, які не толькі выконваў на флейце традыцыйныя ірландскія найгрышы, але і паказваў рытуальныя танцы Дабра і Святла, часам нават уводзіў гледачоў у стан медытацыі паміж фестывальнымі канцэртамі. Вышэйшы ўзровень майстэрства прадэманстраваў Ігар Алоўнікаў, пад чыімі рукамі нават электрычны арган прымушаў слухачоў на нейкі час забыцца на свае надзённыя клопаты і прычыніцца душою да Адвечнага...

Што датычыць конкурсных выступленняў, то тут самым дасканалым быў акадэмічны хор «Аўкурас» (г. Клайпеда, Літва), арыгінальную праграму прывёз Марыянскі хор (г. Кракаў, Польшча) і мужчынскі парафіяльны хор "Арханёл" з Мінска.

На конкурсных праслухоўваннях салістаў-вакалістаў больш за ўсіх спадабаўся голас Алены Разгуляевай (г.Петразаводск, Расія). Лёгкі, празрысты і чысты, ён гучаў амаль ідэальна, і пасля кожнага выкананага Аленай твора яшчэ некаторы час лунаў пад купалам касцёла св. Станіслава, нібыта хацеў як мага болей затрымацца ва ўзнёслай атмасферы магілёўскай святыні.

Сёлета мне давялося пабываць на фестывалі ў якасці не толькі журналіста, але і ў якасці канцэртмайстра, арганіста, кампазітара, спевака хору і інш. Таму акрамя выключна эмацыянальных уражанняў ад спаткання з новымі калектывамі і выканаўцамі, старымі знаёмымі і, безумоўна, з сапраўднай Музыкай, прафесійны абавязак прымушае падзяліцца некаторымі думкамі пра тое, як можна зрабіць фестываль больш дасканалым.

Напрыклад, сёлета конкурс харавых калектываў быў адзіны — і для прафесіяналаў, і для аматараў. Практычна па-за канкурэнцыяй быў акадэмічны хор "Аўкурас" з Клайпеды, які прадэманстраваў традыцыйна высокае для прыбалтаў майстэрства выканання твораў сучасных кампазітараў, напісаных з выкарыстаннем тэхнікі кампазіцыі XX стагоддзя — алеаторыкі, санарыстыкі, складаных політанальнасцей і паліргытміі. Як зазначыў кіраўнік гэтага калектыву Альфонсас Вільджунас, усе ўдзельнікі "Аўкураса" маюць добрую музычную адукацыю, пераважна гэта — выкладчыкі і студэнты музычных навучальных устаноў. Таму для парафіяльных калектываў, у якіх часта каля паловы ўдзельнікаў нават не ведае нотнай граматы, шанцаў апынуцца ў фіналістах конкурсу практычна не было. Праўда, і "Аўкурас" пры выкананні рускай духоўнай музыкі гучаў далёка не лепшым чынам. Тым часам "Магутны Божа" — фестываль перш за ўсё духоўнай музыкі. І чыста выкананыя ноты не заўжды бываюць прасякнуты менавіта той невыказальнай узнёслай і добрай аўрай, якая атачае гучанне хораў парафіяльных (царкоўных). Таму ўсё ж такі падаецца неабходным правядзенне асобных конкурсаў — для прафесійных і парафіяльных хораў (дарэчы, як гэта і было раней). Аналагічнае назіралася і ў конкурсе вакалістаў, дзе ў праграме духоўнага зместу (як гэта азначана ў рэгламенце конкурсу) часцяком можна было пачуць надзвычай "духоўныя" (хутчэй душэўныя, "душашчыпацельныя") амурныя оперныя арыі. Ці ўлічвалася гэта пры галасаванні...

Вельмі слушная прапанова паступіла ад члена журы, пецярскага кампазітара Ігара Мацiеўскага, які выказаўся за правядзенне папярэдніх абласных адборачных тураў, своеасаблівых міні-конкурсаў сярод вясковых парафіяльных хораў. Традыцыйна падобная практыка стымулюе развіццё аматарскага выканання, а таксама вельмі станоўча ўплывае на агульны ўзровень культуры ў рэгіёне.

І асобнага даследавання варты канферанс на сёлетнім фестывалі. Як можна ставіцца да таго, што акрамя Зінаіды Бандарэнкі, ніхто з вядучых не размаўляе на роднай мове? Не кажучы нават пра адсутнасць у асобных выпадках элементарных гуманітарных ведаў: прозвішчы некаторых кампазітараў часам нават цяжка было пазнаць — так змянялі іх экстравагантныя агаворкі і дзіўна пастаўленыя націскі. І кульмінацыя фестывалю: гала-канцэрт пераможцаў, які ўжо некалькі гадоў праходзіць у Палацы культуры і тэхнікі "Хімвалакно" — зале абсалютна не прыгоднай для жывога гучання ані хораў, ані салістаў-вакалістаў. Пераможцы конкурсу, якія ўсе фестывальныя дні арганічна гучалі ў касцёле св.Станіслава, у мікрафоннай атмасферы "Хімвалакна" былі вартыя хіба што жалю... Гэта і зразумела — вузканакіраваныя мікрафоны, размешчаныя на падгучку эстрадных выканаўцаў, на адлегласці выцягнутай рукі бралі болей шыпу, чым карыснага сігналу. А збянтэжаным такой акустыкай (дакладней яе ад-

***Вынікі конкурсу салістаў-вакалістаў.***

Гран-пры: Вольга Гусева (г.Санкт-Пецярбург, Расія)

1-е месца: Алена Разгуляева (г.Петразаводск, Расія)

2-е месца: Тамара Рэмез (г.Мінск, Беларусь)

3-е месца: Алена Мацерынка (г.Магілёў, Беларусь) і Ларыса Іванова (г.Санкт-Пецярбург, Расія)

***Вынікі конкурсу харавых калектываў.***

Гран-пры: Акадэмічны хор "Аўкурас" (г.Клайпеда, Літва)

1-е месца: Камерны хор "Крэда" (г.Кішынёў, Малдова)

2-е месца: Марыянскі хор (г. Кракаў, Польшча)

3-е месца: Камерны жаночы хор (г.Гродна, Беларусь)

Спецыяльны прыз за арыгінальную праграму і яе мастацкае ўвасабленне: Мужчынскі парафіяльны хор "Арханёл" (г.Мінск, Беларусь)

Спецыяльны прыз сімпатый гледачоў: Маладзёжны хор "Элегія" (г.Баранавічы, Беларусь)

***Бёрн Сімус, манах аднаго з кляштароў Ірландыі:***

— Існуе даволі ўстойлівы стэрэатып манаха, які сядзіць у сваёй келлі, нікуды не паказваецца. Я ж аб'ехаў палову зямнога шара са сваімі канцэртамі. І вось, нарэшце, дабраўся да Беларусі. З падобнымі візітамі я некалькі разоў пабываў у Амерыцы, Германіі, Польшчы, Італіі, Іспаніі, зараз збіраюся ў Мексіку. Недзе ў кастрычніку планую зрабіць своеасаблівы тур па гарадах Беларусі.

***Дырэктар-распарадчык фестывалю, дэкан Магілёўскі, ксёндз Раман Факсінскі:***

— Я рады, што пашырылася геаграфія фестывалю. Упершыню да нас прыехаў калектыў з Літвы, манах з Ірландыі, а ў журы быў удзельнік з Аўстрыі. Сёлета было даволі багата маладзёжных эстрадных калектываў, што выконвалі хрысціянскую музыку. Думаю, рана ці позна на фестывалі "Магутны Божа" з'явіцца конкурс эстрадных выканаўцаў музыкі духоўнага зместу. Аднак, перш чым гэта адбудзецца, неабходна, каб і Беларусь магла прадставіць на яго годных кандыдатаў.

Як адзін з магчымых шляхоў развіцця фестывалю "Магутны Божа"мы бачым арганізацыю тэлемастоў з фестывалем "Song of songs". Абодва яны праходзяць паралельна па часе, да таго ж ідэя тэлемоста была б вельмі цікавай, каб яшчэ раз падкрэсліць, што фестывалі, кшталту "Магутнага Божа", будуюць масты паміж рознымі народамі, паміж рознымі канфесіямі, і проста людзьмі, хрысціянамі ўсяго свету.







сутнасцю) пераможцам толькі і заставалася, што суцяшацца "бліскучым" канферансам магілёўскіх тэлезорак: "Ольга! (Маецца на ўвазе Вольга Гусева, уладальніца Гран-пры ў конкурсе вакалістаў. – **В.К.**) Я слышал вас на прослушиваниях. Это было супер!" Стыль, які пасуе маладзёжна-тусовачным шоу-праграмам, але ніякім чынам не стасуецца з фестывалем духоўнай музыкі.

З горыччу і шкадаваннем у такія моманты згадваў я першы фестываль 1993 года. Якая жахлівая розніца... Куды падзеліся імправізаваныя канцэрты харавых калектываў на вуліцах Магілёва, начныя

***Альфонсас Вільджюнас, мастацкі кіраўнік акадэмічнага хора "Аўкурас" (г.Клайпеда, Літва):***

— Пра фестываль "Магутны Божа" мы даведаліся ў мінулым годзе, калі да нас на 750-годдзе горада Клайпеды завітаў мэр Магілёва Віктар Іванавіч Шорыкаў. Ён нас пачуў на канцэрце і сказаў, што мы абавязкова павінны прыехаць у Магілёў. І вось мы тут. Я быў вельмі рады вывезці маіх маладых спевакоў, якія ў Заходняй Еўропе болей былі, чым на Усходзе, у суседнюю Беларусь. Усе мы былі здзіўленыя надзвычай высокім узроўнем арганізацыі магілёўскага конкурсу. Я нават скажу, што па ўзроўні "Магутны Божа" нічым не горш за харавыя конкурсы, што арганізуюцца ў той жа Францыі ці Швецыі.

супольныя спевы з гітарай ля кастра, натоўпы пілігрымаў, якія пешшу (!) прыходзілі на фестываль у Магілёў нават з суседніх краінаў? Настрой "выратоўвала" хіба што свята горада – паралельна з фестывалем адзначалася 736-годдзе Магілёва. Сёлета ўпершыню не былі запрошаныя (не толькі ў журы, але нават як госці) адны з галоўных ідэйных натхняльнікаў фестывалю, распрацоўшчыкі яго рэгламенту, вядомыя рупліўцы беларускага музычнага адраджэння, Віктар Скорабагатаў і Ганна Каржанеўская. І ўжо паступова прывыкаеш да трасянкавага варыянту назвы фестывалю "Магутный Боже", якая не першы год і з зайздроснай упартасцю гучыць рэфрэнам да фестывальных канцэртаў.

Магчыма гэтая думка і надзвычай суб'ектыўная, але, пры ўсім вонкавым падабенстве, з кожным годам усё меней застаецца самога духу "Магутнага Божа".

У наступным годзе "Магутны Божа" адбудзецца ужо ў 12-ты раз. І толькі час пакажа, стане гэтая лічба для фестывалю сімвалам ці вяртання да яго вытокаў, ці канчатковай адмовы ад ідэй, што далі яму жыццё.

**Віктар КІСЦЕНЬ**
**Фота аўтара**

***Зінаіда Бандарэнка, бязменная вядучая асноўных фестывальных канцэртаў:***

— Мне падалося, што сёлетні фестываль быў больш арганізаваны. У мяне як вядучай было менш працы, нават у напісанні сцэнарыяў. Але ж, традыцыйна тэксты адкрыцця і закрыцця фестываляў я імкнуся рабіць сама, бо лічу, што вядзенне павінна быць выключна на беларускай мове.

Прыемна, што нягледзячы на спад сусветнай эканомікі людзі едуць да нас за свой кошт. Я проста здзіўляюся, якая гэта апантанасць, якая любоў да духоўных спеваў... І яшчэ большая колькасць людзей прыходзіць, каб паслухаць узнёслую, духоўную музыку.

***Віктар Роўда, старшыня журы конкурсу:***

— Выказвалася такая думка, што для вакалістаў трэба стварыць асобнае журы. Паверце мне, што дырыжоры хораў не меней, а то і значна болей разбіраюцца ў вакале. Я кожны год слухаю ўсіх вакалістаў на дзяржаўных іспытах у Беларускай акадэміі музыкі. І ведаеце, настаўнікі-вакалісты прызвычайваюцца да сваіх студэнтаў і не такія патрабавальныя да іх, як дырыжоры-харавікі. Калі ў хоры нехта "рэзане па звязках", дасць "срэбраную ноту", непатрэбную, "з карозіяй", то дырыжор абавязкова скажа: "Вы кепска спяваеце". А калі студэнт, які заканчвае акадэмію, увесь час спявае "каразійным" гукам, яму кажуць: "Гэта добра", і ставяць "пяцёрку". Усе паважаныя члены журы выдатна разбіраюцца ў "тонкасцях" харавых спеваў. Да таго ж, не кожны год будзе такая "кату масленка", як сёлета – 12 вакалістаў. У мінулыя гады бывала і 4, нават па 3 удзельнікі. І вы ведаеце, падчас абмеркаванняў "кожны кулік сваё балота хваліць". Аб'ектыўнасці не было. Даходзіла нават да таго, што абмяркоўвалі канкурсанта, пачынаючы ледзь не з яго біяграфіі. А якая мне справа, як той спяваў тры гады таму? Ён спявае – я ацэньваю яго не за тыя гады, якія ён развіваўся. Я канстатую факт сённяшні. Таму, мяркую, што пытанне пра асобны склад журы для вакалістаў мы абмінём.

*НА ЗДЫМКАХ: касцёл св. Станіслава; уладальніца Гран-пры В. ГУСЕВА (Расія); ірландскі манах Б. СІМУС; апафеоз фестывалю; маэстра В. РОЎДА з удзельнікамі конкурсу.*





***Гучала песня – мілагучная, задушэўная, адна з тых, пра якія звычайна кажуць, што за сэрца бярэ. І яна сапраўды выклікала самыя светлыя пачуцці, абуджала радасныя думкі. Аднак не толькі сваім зместам, і не адной непаўторнасцю мелодыі.***
***Стваралася ўражанне, што той, хто нёс падобную радасць, з'яўляецца тваім добрым знаёмым і завітаў да цябе, як чаканы і дарагі госць, а таму і паводзіць сябе гэтак натуральна, нязмушана. Выкананне прыцягвала ўвагу і высокім прафесіяналізмам. Нават не верылася, што спявак, які так захапіў цябе, – звычайны самадзейнік. Хоць "звычайны" – не тое слова: выступаў загадчык аддзела Слуцкага райвыканкама Мікалай Канстанцінавіч ГАЛАДОК.***

Пасля канцэрта пацікавіўся ў Мікалая Канстанцінавіча:

— І даўно спяваеце?

— Са школьных гадоў.

Нарадзіўся Мікалай Галадок у невялікай вёсцы Карашавіца, што атулена лясамі, на Барысаўшчыне. Гадаваўся ў дружнай, працавітай сям'і, а калі надаралася вольная часіна гаспадыня Марыя Андрэеўна любіла спяваць, разумеючы, што цудоўная народная мелодыя, як той жыватворны бальзам, здымае стому. Ад маці навучыўся спяваць і Коля, а неўзабаве пачаў прымаць актыўны ўдзел і ў школьнай мастацкай самадзейнасці.

— А як, Мікалай Канстанцінавіч, вы на Случчыну трапілі?

— А гэта пасля службы ў войску адбылося.

# АД «ТАНЕЖЫЦКІХ ВЯЧОРАК» – ПАЧАТАК

Дарэчы, М. Галадок і ў арміі не развітваўся і з песняй, і ўвогуле з мастацкай самадзейнасцю. Звольніўшыся ў запас, Мікалай Канстанцінавіч і паехаў на Случчыну, дзе, як даведаўся, ёсць вакансія загадчыка Чапліцкага сельскага клуба. Дырэкцыя саўгаса "Танежыцы" ахвотна ўзяла на працу ўчарашняга старшыну, бо з расказа М. Галадка даведалася, што ён чалавек на культурна-асветнай ніве — не чужы. А якраз такія людзі і патрабаваліся гаспадарцы, бо моцныя культурныя традыцыі былі і ў самых Чаплічах, і ў цэнтральнай вёсцы саўгаса — Танежыцы.

Іншы на месцы Мікалая Канстанцінавіча, магчыма, і задаволіўся б тым, што ёсць. Працуе мастацкая самадзейнасць, то і добра. Навошта лішнія намаганні, калі і так ёсць нямала ахвочых і спяваць, і танцаваць. Ды разумеў М. Галадок, што сапраўдны поспех прыходзіць тады, калі аматарскія калектывы не паўтараюць адзін аднаго, пераўтвараючыся ў свайго роду блізнюкоў, а кожны сам па сабе з'яўляецца арыгінальным. Тым больш, што і арыентавацца было на каго. У тых жа Чаплічах яшчэ нядаўна добрая слава ішла пра духавы аркестр, які ўзначальваў нехта Антон. У саміх жа Танежыцах поспехам карыстаўся фальклорны калектыў.

На фальклорным калектыве Мікалай Канстанцінавіч і запыніў сваю найпершую ўвагу, зразумеўшы, што ўдасканаленне яго — найбольш перспектыўны шлях. Перагаварыў не толькі з самімі ўдзельніцамі, але і з тымі аматарамі песні, якія пакуль на сцэне не выступалі. Усё гэта былі пажылыя жанчыны, пенсіянеркі. Ды ўзрост, зразумела, песні не перашкода. Важна яшчэ і тое, што М. Галадок паставіў за мэту прапагандаваць у асноўным творы, якія ў іншых рэгіёнах былі слаба распаўсюджаны, а то і зусім не бытавалі. Марыя ж Горгун, Соф'я і Яўгенія Макарэйкі, Лідзія Вярбіцкая, Валянціна Юркевіч у гэтым сэнсе аказаліся кладам, які ўдаецца адшукаць далёка не кожнаму. Кожная з іх добра ведала песні, якія выконвалі іх маці, бабулі.

Гэтыя творы і былі ўключаны ў рэпертуар калектыву, а паколькі праграма выступленняў пашыралася за кошт танцаў, абрадаў, дык рэарганізацыя прывяла да таго, што з'явіўся фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Танежыцкія вячоркі". На той час Мікалай Канстанцінавіч ужо працаваў дырэктарам танежыцкага сельскага Дома культуры, самі ж вяскoвыя пяюні жылі ў асноўным у Чаплічах, але гэта не перашкаджала ім, спяшаючыся на рэпетыцыі ці выступленні, перадольваць чатыры кіламетры: два — у Танежыцы і столькі назад. Як і ахвотна выязджаць з канцэртамі ў суседнія гаспадаркі, а таксама ў іншыя раёны.

Аднак сваю работу М. Галадок не абмежаваў "Танежыцкімі вячоркамі". Арганізаваў і хор, драматычны тэатр, а таксама яшчэ і агітацыйна-мастацкую брыгаду, у якой з'явілася прыхільнікаў не менш, чым у іншых самадзейных калектываў. І гэта не дзіўна, бо праграма выступленняў складалася такім чынам, каб зацікавіць будучых гледачоў самымі рознымі нумарамі. А сярод іх былі прывязаныя зместам сваім да канкрэтных рэалій. Славілі дбайных працаўнікоў, бічавалі гультаёў і хуліганаў. І рабілі гэта так умела, паспяхова, што выклікалі апладысменты не толькі дома, і не толькі на Случчыне. Выступалі і ў Салігорскім, і ў Любанскім, і ў Старадарожскім, і ў Капыльскім раёнах. Давалі да 80 канцэртаў у год. І поруч з іншымі артыстамі на сцэну нязменна выходзіў сам кіраўнік. І таксама неадноўчы доўга яго не адпускалі са сцэны.

Не менш сур'ёзны экзамен М. Галадок трымаў і тады, калі праходзіў яго творчы вечар. Гэта было сапраўднае свята не толькі для мясцовых жыхароў, а і



для тых гасцей, якія прыехалі з розных гаспадарак Случчыны.

У працы, у пошуках непрыкметна праляцеў час. Мікалай Канстанцінавіч паспеў завочна скончыць тагачасны Мінскі інстытут культуры. Там у час адной з сесій напаткаў і сваё шчасце, пазнаёміўшыся з Марыяй Казловіч, якая перад гэтым скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, а цяпер атрымлівала вышэйшую адукацыю. Марыя, ужо Галадок, пераехаўшы ў Танежыцы, узначаліла мясцовую бібліятэку.

Так працягвалася да 1999 года, пакуль у Слуцкім райвыканкаме не вызвалілася пасада загадчыка аддзела культуры. Тадышні старшыня вертыкалі Зянон Ломаць разважыў, што лепшага спецыяліста на яе, як М. Галадок, не знойдзеш. Мікалай Канстанцінавіч прыняў гэтую прапанову. Хоць і разумеў, што давядзецца нялёгка, бо і яго папярэднікам Іванам Пісарыкам было нямала зроблена, дый культурныя традыцыі шмат у якіх вёсках нават больш моцныя, чым у тых жа Танежыцах. Але да цяжкасцяў яму было не прывыкаць, а жаданне па-сапраўднаму працаваць не растраціў, нягледзячы на тое, што на той час набліжаўся да свайго 50-годдзя.

Сёння ў М. Галадка абсяг работы— вельмі шырокі. У яго полі зроку пастаянна знаходзяцца 171 калектыў мастацкай самадзейнасці, у якіх удзельнічаюць больш за 1900 аматараў прыгожага. Дзесяць калектываў носяць ганаровае званне "народны", а да ўсяго ёсць клуб народных майстроў "Крылы творчасці" пры Слуцкім раённым цэнтры народнай творчасці. А таксама шматлікія бібліятэкі, палацы і дамы культуры, клубы, Квасыніцкі цэнтр рамёстваў, школы мастацтваў...Аднак да ўсяго даходзяць рукі Мікалая Канстанцінавіча, на ўсё стае ягонай энергіі. У тым ліку і на свята "Слуцкія паясы", якое штогод збірае таленты не толькі з усёй Случчыны, а і суседніх раёнаў.

**Валерый СВЕДЧАНКА**

# ЛІТАРАТУРА НА БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁ: У ПРАГРАМАХ І АСОБАХ

***Чым цікавы сёння літаратурны свет, пра што пішуць беларускія пісьменнікі і як яны ўвогуле пачуваюць сябе ў перыпетыях сучаснага жыцця? І дзе пра гэта мы можам даведацца? Канечне, у літаратурных выданнях. І яшчэ — на Першым нацыянальным канале і канале "Культура" Беларускага радыё. Прычым тут інфармацыя аператыўная, асабліва, што датычыцца літаратурных падзей і кніжных навінаў.***

*А дапамагаюць прэзентаваць новыя кніжкі і асобы іх аўтараў журналісты Беларускага радыё Навум Гальпяровіч, Галіна Шаблінская, Ірына Шаўлякова, Маргарыта Прохар і Вольга Сямашка.*

### Навум Гальпяровіч:

— Літаратура — асаблівы від мастацтва, дзе пісьменнік павінен з дапамогай слова стварыць вобраз, прайсці, такім чынам, праз "браму абраных" у свет літаратуры. "Брама" — так назваў я адну са сваіх праграм на Беларускім радыё. Праз "Браму" прайшлі як вядомыя творцы — Т. Бондар, А. Пісьмянкоў, В. Шніп, так і маладыя — Т. Сівец, І. Дарафейчук і іншыя, даказваючы, што мастацкае слова па-ранейшаму важкае і неўміручае. Літаратурныя падзеі і навіны літаратуры складаюць суботнюю праграму "Літаратурны праспект". Гэта цікавыя рэпартажы нашых карэспандэнтаў з музеяў, бібліятэк, творчых вечарын, што адбываюцца ў Беларусі. А гідам літаратурных вандровак з'яўляецца паэт А. Бадак.









**ПІСЬМЕННІКІ — З БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁ**

***Віктар Праўдзін,** намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя»:*

— Нядаўна меў магчымасць слухаць некалькі дзён запар Першы нацыянальны канал Беларускага радыё. І я ўсцешыўся, бо праграмы зроблены прафесійна, цікава, журналісты відавочна «хвараюць» за сваю справу, адчуваецца неабыякавасць і натхнёнасць іх працы.І мне, як літаратару, канечне, прыемна слухаць літаратурны блок праграм: «Сентыментальнае паляванне», «Кароткія гісторыі», «Клас і К», знаёміцца з навінамі «Кніжнага кіёска» ў нядзелю, пачуць «Палітру», «Браму».

### Маргарыта Прохар:

— Кожную нядзелю ў праекце «Радыёпарк» адчыняецца «Кніжны кіёск» — своеасаблівы арыенцір у вірлівым моры літаратурнай інфармацыі. Асаблівая ўвага — айчынным кніжным навінкам: пастаянна анансіруюцца цікавыя і папулярныя «залатыя» серыі «Проза ХХ стагоддзя», «Паэзія ХХ стагоддзя», «Бібліятэка прыгод і фантастыкі», «Скарбы сусветнай літаратуры» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»), а таксама кніжныя навінкі ад выдавецтваў «Беларускі кнігазбор», «Беларуская энцыклапедыя». Дарэчы, у нашым кніжным кіёску «Радыёпарка» вы зможаце не толькі атрымаць цікавую інфармацыю, але і ўласна кнігу — падарунак за перамогу ў «Літаратурнай гульні».

А ўсіх аматараў арыгінальнай літаратуры я запрашаю паслухаць «Кароткія гісторыі» — завітаць у начны літаратурны клуб, дзе гучаць навелы і апавяданні Гі дэ Мапасана, О'Генры, Французы Саган, Агаты Крысці, Рэя Брэдберы, Міхаіла Булгакава, Аляксандра Грына, Данііла Хармса, Івана Буніна, Іва Андрыча, Карэла Чапека, Ліёна Фейхтвангера і многіх іншых. Аднак не толькі «зоркі» класічнай сусветнай літаратуры мігцяць у радыёэфіры. Не абмінаем і айчынную літаратуру, кіруючыся дэвізам «Ведай і чытай сваё»: творы Я. Баршчэўскага, У. Караткевіча, І. Шамякіна, Я.Брыля, Р. Баравіковай і многіх іншых — як «мэтраў» так і маладых аўтараў.

Пачуць "жывы голас" літаратара, яго меркаванні, думкі, цікавыя гісторыі ўзнікнення твораў, зазірнуць у літаратурную лабараторыю, прапануе «Клас і К» на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё, дзе госці эфіру — вядомыя «сучасныя класікі» расказваюць пра сябе, свае творы, жыццё і свет — сапраўдны — у рэаліях і пытаннях — і літаратурны — інтрыгуючы і поўны містыфікацый.

А літаратурная гісторыя прадстаўлена ў праграме «Хранограф» на канале «Культура». Гэта цікавая літаратурная хроніка, расповеды пра гістарычныя шляхі кніг і творчую спадчыну старадаўніх беларускіх пісьменнікаў, гістарычна-літаратурныя росшукі і аўтарскае даследаванне, як зберагаецца сёння літаратурная памяць і творчасць, пакінутая продкамі нам, іх нашчадкам.

### Галіна Шаблінская:

— Мая аўтарская праграма «Палітра», метафарычна кажучы, ёсць россып літаратурных фарбаў, якія ствараюць вечаровы пейзаж мастацкага слова. І кожным разам — гэта малюнак асобнага творцы з яго непаўторнасцю і класічнасцю адначас. У аснове праграмы — псіхалогія творчасці, так бы мовіць, «запатая ружа» пісьменніка. Сярод удзельнікаў праграмы: народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, вядомыя пісьменнікі Віктар Карамазаў, Алена Васілевіч, Васіль Зуёнак, Валянціна Коўтун, Галіна Каржанеўская, Анатоль Казлоў, Барыс Пятровіч, Міхась Скобла, Галіна Булыка і іншыя.

Што датычыцца канала «Культура», то, як мадэратар «Літаратурнага аўторка», я хачу сказаць, што айчыннае прыгожае пісьменства прадстаўлена тут рознымі праграмамі. Іх мэта — наблізіць слухача да мастацкага слова, дапамагчы яму ўсвядоміць, што пачаткам духоўнасці для кожнага чалавека ёсць найперш яго ўласная душа. А фарміраванне яе ў многім адбываецца пад уплывам мастацтва, адзін з асноўных відаў якога і ёсць літаратура. Яго складаюць праграмы «Дэбют», «Свежыя старонкі: агляд літаратурных часопісаў», «Ліставанні», «Таленты з глыбінкі», «Бестсэлер», «Паэтычны радыётэатр», «Гаспода», «Нанава».

Спектр праблем, што разглядаюцца і агучваюцца, досыць шырокі: ад першых крокаў у творчасці, якія робяць «літаратурныя дэбютанты» да філасофскага асэнслення творчасці ўвогуле, асобы пісьменніка і яго мікракосмасу. «Таленты з глыбінкі», якія рыхтуе Маргарыта Прохар, — візітная картка літаратурных талентаў Беларусі самых розных рэгіёнаў. «Ліставанні» Івана Рыбіцкага — своеасаблівае падарожжа па старонках эпісталярнай спадчыны пісьменнікаў свету. «Паэтычны радыётэатр» дае магчымасць адчуць прыгажосць і мелодыку беларускага паэтычнага слова ва ўмовах радыёдраматургіі. «Бестсэлер» дазваляе аматарам прыгодніцкай і фантастычнай літаратуры пачуць у прамым эфіры найбольш цікавыя і прызнаныя творы сусветнай літаратуры. А бліжэй пазнаёміцца з асобай аўтара вы зможаце, паслухаўшы маю аўтарскую праграму «Гаспода», удзельнікі якой — пісьменнікі розных пакаленняў, крытыкі, літаратуразнаўцы, якія дапамагаюць стварыць прастору мастацкага слова, што захавала лепшыя традыцыі беларускай класікі, але разам з тым не пазбаўлена авангардысцкіх пошукаў сёння. Вызначылася шырокае кола тэм, рубрык, якія пастаянна абнаўляюцца. Праграма мастацка-публіцыстычная па форме, гэта цікавы аналітычны дыялог у прамым эфіры з выкарыстаннем фрагментаў мастацкіх твораў у выкананні артыстаў мінскіх тэатраў. І завяршае «Літаратурны аўторак» на канале «Культура» праграма «Нанава», якая дазваляе нанава перачытаць класічныя творы сёння ў кантэксце айчыннага і еўрапейскага прыгожага пісьменства.

**ПІСЬМЕННІКІ — З БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁ**

***Мікола Мятліцкі,** галоўны рэдактар часопіса «Полымя»:*

— Прабачце за міжвольныя паэтычныя рыфмы, але мяне радуе тое, што на Беларускім радыё па-сапраўднаму гучыць беларускае слова, якое заўсёды чаруе роднасцю і праз якое якраз і сталюецца духоўнасць. Радыё часта звяртаецца да твораў пісьменнікаў, гучыць жывы голас беларускіх літаратараў, прычым як сталых, так і маладых творцаў. Мне таксама цікавыя праграмы, прысвечаныя нашай культурнай спадчыне. Хацелася б, каб і надалей Беларускае радыё прапагандавала нацыянальныя духоўныя каштоўнасці, у тым ліку літаратурныя здабыткі — беларускія часопісы і кнігі.

### Ірына Шаўлякова:

— «Сентыментальнае паляванне» — так называецца мая аўтарская праграма пра самыя розныя перыпетыі ў літаратурным свеце. «Паляўнічым» на літаратурнай прасторы цікава ўсё, яны зазіраюць у самыя загадкавыя і незвычайныя куточкі айчыннага пісьменства, параўноўваюць літаратурныя росшукі ў беларускай прасторы з дасягненнямі замежнай прозы і паэзіі, вандруюць у свеце літаратурных мар, фантазій, алюзій, а таксама слухаюць, што шэпчуць ім літаратурныя нябёсы: вершы, мастацкія наватворы. Абсяг для палявання — шырокі: ад класікі да найноўшай славеснасці.

**ПІСЬМЕННІКІ — З БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁ**

***Раіса Баравікова,** галоўны рэдактар часопіса "Маладосць":*

— Літаратура абуджае самыя прыгожыя пачуцці, пашырае інтэлект, вучыць жыццю. І таму чым больш згадак пра літаратурныя творы, чым больш яны гучаць і пра іх ведаюць, тым лепш для грамадства. Гэта наш духоўны пачатак: з літаратуры бярэ выток духоўная крыніца, якая здольна ўзнесці чалавека да самых высокіх вяршыняў духу, заклікае да душэўнага хараства і велічы, што падтрымліваць у наш час вельмі неабходна, асабліва ў маладым пакаленні. Мне застаецца, па-першае, падзякаваць нашаму Беларускаму радыё за тое, што яно так плённа і натхнёна — з дня ў дзень — прапагандуе самыя лепшыя здабыткі беларускай літаратуры, і, па-другое, пажадаць, каб літаратура была заўсёды жаданай госцяй у эфіры Беларускага радыё.

**ПІСЬМЕННІКІ — З БЕЛАРУСКІМ РАДЫЁ**

***Людміла Рублеўская,** паэтэса, празаік:*

— Сёння Беларускае радыё надае вялікую ўвагу літаратуры, з'явіліся новыя цікавыя літаратурныя праграмы. І я мяркую, што такі накірунак трэба прадаўжаць, таму што без культуры няма нацыі, а літаратура — не што іншае, як адзін са складнікаў культурнага жыцця і нашай духоўнасці ў будучым.

### Алена Бабак, дырэктар Дырэкцыі мастацкага вяшчання Беларускага радыё:

— Мы жывём у XXI стагоддзі — у час глабальных змен у мас-медыя, тэхналагічным прагрэсе, глабалізацыі і г.д. Таму немагчыма заставацца ў баку ад гэтых працэсаў ва ўмовах канкурэнцыі, што ўсё узмацняецца. На Беларускім радыё ідзе актыўны творчы пошук шляхоў уключэння ў агульную сістэму. Гэта не так проста. Аднак я мяркую, што ў новым вяшчальным сезоне нашым наступным крокам па "літаратурных праспектах, дарогах і сцежках" будзе не толькі інфармаванне (няхай з аналітыкай), але і накірунак на папулярызацыю, так званая "раскрутка" лепшага, што ёсць у беларускай літаратуры — імёны, літаратурныя выданні, кнігі, выдавецтвы. Хацелася б пашырыць і кола спецыялістаў — крытыкаў, літаратуразнаўцаў, культуролагаў, — каб пазбегнуць "кампліментарнасці" і паказаць "жывы" працэс, які ідзе ў літаратуры,таму што ёсць імёны і творы, якія мы, беларусы, павінны ведаць, а Беларусь — імі ганарыцца.

# СОЛЬ НАЦЫІ

Кожнаму даросламу чалавеку вядома, што надзейнае захаванне, якасць прадуктаў харчавання напрамую залежыць ад насычанасці іх соллю. Калі знайсці тут правільныя суадносіны, прадукты могуць вельмі доўгі час захоўвацца і пры плюсавой тэмпературы, не губляючы свае спажыўныя вартасці. Ёсць і ў кожнай нацыі такі кампанент, які пры любых варунках забяспечвае ёй прыстойнае існаванне, дынамічнае развіццё. Гэты кампанент — інтэлігенцыя, якую з чыёйсьці лёгкай рукі на рубяжы XIX—XX стагоддзяў вельмі часта з вялікай любоўю і пашанаю называлі соллю нацыі.

Мы ўсе ведаем калі і якія ідэолагі глядзелі на інтэлігенцыю не больш, як на нейкую праслойку ў сацыяльнай структуры грамадства. Галоўнай жа сілай у ёй прызнаваўся рабочы клас, якому адводзілася авангардная роля ў эканамічнай, палітычнай сферах. На практыцы атрымалася ўсё наадварот. Акурат у асяроддзі інтэлігенцыі зарадзілася, пераўтварылася ў "навуковую" канцэпцыю ідэя перабудовы сацыялістычнага ладу жыцця, якая прывяла да краху камуністычнай ідэалогіі. На гэтым крутым пераломе ў гісторыі савецкіх народаў абвешчаная бальшавікамі авангардная сіла грамадства — рабочы клас — нічога не зрабіў дзеля абароны СССР і яго "заваёў". Ад гэтага часу ўжо ніхто нават з самых зацятых камуністычных ідэолагаў не асмельваўся называць інтэлігенцыю праслойкай. У дачыненні да такой сацыяльнай катэгорыі ўсё часцей сталі ўжываць азначэнні: "соль нацыі", "мозг народа", "рухавік грамадства"...

Выступіць у ролі "солі нацыі" зусім не проста інтэлігенцыі. Для гэтага яна найперш сама мусіць быць узгадаванай на прыродных культурна-моўных традыцыях нацыі. На вялікі жаль, такое, на мой погляд, зусім неўласціва абсалютнай большыні ні ўчарашняй, ні сённяшняй беларускай інтэлігенцыі. Але, як ведаем, былі часы, калі ў нас хапала адукаваных людзей, якія сваёй плённай працай уносілі не толькі важкі ўклад у духоўны росквіт роднага краю, але і дбалі, каб ён яшчэ вызначаўся культурнай самабытнасцю, не быў чыймсьці злепкам. Такое напрыклад, асабліва было характэрна адукаваным, творчым людзям у час, калі наша дзяржава называлася Вялікае Княства Літоўскае. Без такога дзяржаўнага суверэнітэту, які быў тады, беларускі народ ніколі не меў бы "Залатога веку" ў сваёй гісторыі, які забяспечваў інтэлігенцыі выдатныя ўмовы для творчай дзейнасці. Нагадаю, што пра тагачасныя навуковыя, культурныя здабыткі Беларусі ведалі ў многіх еўрапейскіх краінах.

З велізарнымі цяжкасцямі давялося сутыкнуцца ўлюбёнай у родны край інтэлігенцыі, калі ён з прычыны неспрыяльных абставін апынуўся ў складзе Рэчы Паспалітай. Многія таленты замест таго, каб ўдзесяцярыць свой уклад у развіццё беларускай культуры, навукі, адукацыі пайшлі пераймаць духоўныя вартасці ад палякаў, якія афіцыйна лічыліся тытульным народам Рэчы Паспалітай. Адыход значнай, або большай часткі інтэлігенцыі ад прыродных культурна-моўных набыткаў пры аднačасовым засваенні і працы над узбагачэннем духоўных каштоўнасцяў іншага народа, як сведчыць жыццё, вядзе да этнічнага вымірання свайго. Не бяруся сцвярджаць, што гэта добра разумела перакінутая, у даным выпадку, у польскую культуру беларуская інтэлігенцыя, але, думаецца, яе віна надзвычай вялікая, што напярэдадні зніткнення Рэчы Паспалітай з палітычнай карты Еўропы (1795) "беларусы, — як пісаў Вацлаў Ластоўскі, — сталі нявольным, мужыцкім народам... засталіся чуць жывымі". Наша інтэлігенцыя аказалася па сутнасці цалкам спаланізаванай.

Калі так можна сказаць, слабага, практычна цалкам пазбаўленага ўласнай інтэлігенцыі беларускага народа, вядома, нічога добрага не чакала, калі ён вымушаны быў пасля падзелаў Рэчы Паспалітай жыць пад уладай Расійскай імперыі. У дачыненні да беларусаў яе палітыка была ніколькі не лепшай за польскую, таму што не прызнавала за імі права на самабытнае нацыянальнае жыццё. У такіх неспрыяльных варунках у беларускага народа не магла фармавацца ўласная, арганічна цесна інтэграваная ў яго культурна-моўны пласт інтэлігенцыя. Здольныя да творчай дзейнасці людзі нашага краю ішлі, за рэдкім выключэннем, працаваць на рускую культуру, садзейнічаючы гэтым самым толькі больш эфектыўнаму правядзенню ў сябе ж дома русіфікацыі (гаворка пра ўзаемаабагачэнне культур тут не вядзецца). Напэўна, не без болю ў сэрцы ў першым нумары часопіса "Гомон" за 1884 год, які выдаваўся ў Пецярбургу беларускай фракцыяй тайнага таварыства "Народная воля", сцвярджалася: "Беларускі народ як нацыя плебейская чакае з'яўлення сваёй інтэлігенцыі. Да гэтай пары ён выдзяляў з сябе сілы, якія служылі або польскай, або вялікарускай культуры. Глуха, але ўпарта пратэставаў ён супраць здрадніцкіх спробаў паланізаваць альбо авялікарусіць яго... Свята захоўвае ён асновы свайго жыцця ў чаканні з'яўлення сваёй інтэлігенцыі, якая будзе не ламаць гэтыя асновы, а развіваць і ўдасканальваць іх".

Як на той грэх, такая інтэлігенцыя не з'ўлялася на свет божы, а калі і з'яўлялася, дык у такой мізэрнай колькасці, што практычна аніяк не ўплывала на нацыянальнае становішча ў краі. І гэта зразумела.

Як вядома, без нацыянальна-самасвядомых пластоў грамадства ніводнаму народу не наканавана ўзняцца да правільнага разумення ролі палітычнай незалежнасці. Адукаваных людзей у нас павялічвалася, але толькі не нацыянальна-самасвядомых, таму выступаць за яе не было каму. Але ніхто іншы, як інтэлігенцыя, стала галоўным чыннікам магутнай плыні нацыянальна-культурнага Адраджэння канца XIX — пачатку XX стагоддзя.

Немалыя здабыткі інтэлігенцыі ў нацыянальна-культурным будаўніцтве ў 20—30-я гады. Яе актыўны ўдзел у правядзенні дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі адыграў вырашальную ролю не толькі ва ўмацаванні пазіцый беларускай сістэмы адукацыі, культуры і мовы, але і ў павышэнні ўзроўню нацыянальнай самасвядомасці народа, што садзейнічала фармаванню з яго маладых пакаленняў вялікай арміі інтэлігентных, моцна адданых сваёй Радзіме людзей. У іх хапала не толькі жадання, але і таленту, энергіі, каб назаўжды паконччыць з культурна-моўнай залежнасцю беларускага народа. Толькі гэтага не хацелі партыйны цэнтр у Маскоўскім Крамлі і падначаленыя яму рэпрэсіўныя службы. Яны і аб'явілі рашучы бой красе беларускага народа — нацыянальнай інтэлігенцыі. (Пра рэпрэсіі да інтэлігенцыі іншых народаў — гаворка асобная.) Наколькі моцны накаўт яна атрымала, відаць, напрыклад, з таго, што толькі з ліку беларускіх пісьменнікаў было рэпрэсіравана больш за 170 чалавек, для значнай часткі якіх гэта каштавала жыцця. Няцяжка зразумець, колькі страчана намі ад таго, што гэтыя людзі на доўгі час ці назаўжды былі адключаны ад сваёй творчай дзейнасці.

Практычна адсутнічалі ўсялякія магчымасці для фармавання нацыянальнай інтэлігенцыі ў пасляваенны перыяд, галоўным чынам таму, што яе падрыхтоўка вялася ў рускамоўных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. З кожнай *сотні іх выпускнікоў добра калі 3—5* чалавек маглі працаваць у беларускім культурна-моўным рэчышчы. Астатнія лічылі сябе суперінтэрнацыяналістамі і без усялякіх ваганняў перавагу аддавалі агульнасавецкім духоўным каштоўнасцям над нацыянальна беларускімі, якія, меркавалася, па меры набліжэння да "светлага камуністычнага грамадства" павінны будуць адыгрываць усё меншую і меншую ролю.

Здаецца, не было ў СССР такой саюзнай рэспублікі, як наша, дзе б інтэлігенцыя адыгрывала такую непрыкметную ролю ў нацыянальным жыцці ўласнага народа. Невыпадкова мы так нерашучы, пасіўна паводзілі сябе, калі ў маштабах усяго Савецкага Саюза пачалася гарбачоўская перабудова. Такія ж паводзіны вызначалі нас і пасля распаду СССР. Іншым разам і ўдавалася інтэлігентам з магутным нацыянальным гартам прыняць тую ці іншую патрэбную пастанову, але, як пазней высвятлялася, неставала надзейных людзей, найперш інтэлігенцыі, для выканання намечанага. Яе нацыянальны пласт увесь час заставаўся празрыстым. Толькі, вось бяда, многія гэтага не заўважалі ці не жадалі заўважаць. Яны так добра прызвычаіліся да падобных абставін, што нават і думкі не дапускалі пра незавершанасць на Беларусі працэсу фармавання нацыянальнай інтэлігенцыі, паколькі да яе беспадстаўна залічвалі і тых, хто двух слоў не мог звязаць па-беларуску, цалкам жыў паводле рускіх культурна-моўных стандартаў.

Куды больш аб'ектыўны погляд на *стан нацыянальнага жыцця Беларусі* мелі замежныя асобы, якім даводзілася наведваць яе. Бачачы тут амаль поўнае панаванне рускага элементу ў культуры, адукацыі, навуцы, не чуючы беларускай мовы ў грамадскіх месцах, яны ніяк не маглі гэтую тэрыторыю Еўропы аднесці да якой-небудзь адметнай, самастойнай нацыянальна-дзяржаўнай адзінкі. Асабліва не дазваляла прыйсці да такой думкі назіранне за канкрэтнымі дзеяннямі і паводзінамі тых катэгорый інтэлігенцыі, якія ў кожнага народа адносяцца да самых актыўных і прадуктыўных творцаў нацыянальных духоўных каштоўнасцяў. Паколькі яны ў *нас ствараліся пераважна на* рускай аснове, таму, не верылася, што на Беларусі ёсць свая арыгінальная нацыянальная інтэлігенцыя.

Здаецца, сёння як ніколі нам не хапае нацыянальна-самасвядомай інтэлігенцыі. Хаця, такі дэфіцыт у нас мае хранічны характар. І калі этнічнае ядро беларускай нацыі — інтэлігенцыя ў бліжэйшы час не знойдзе ў сябе сілы перабудавацца, не зойме цца, як след пытаннем адраджэння і незалежнасці Бацькаўшчыны, мабыць нашаму народу ўдасца праіснаваць у XXI стагоддзі ўсяго толькі некалькі дзесяцігоддзяў. Трэба начыста адкінуць, найперш інтэлігенцыі, усялякія спадзяванні на ўяўны шчаслівы збег акалічнасцяў, на абавязковае заступніцтва за нас Бога ў самую апошнюю хвіліну, а спадзявацца толькі на саміх сябе, на сваю самаахвярную працу на карысць нацыянальна-культурнага Адраджэння.

Існуе небяспека, што таптанне на месцы, а дзе дык і адступленне з раней заваяваных пазіцый у нацыянальна-культурным Адраджэнні могуць спарадзіць у многіх людзей сумненні ў яго рэальнасці, што аслабіць іх змаганне за гэтую высакародную справу. Такое вельмі непажадана. Таму, якой бы сёння не здавалася нібыта безвыніковай барацьба за незалежнасць краіны, захаванне яе этнакультурнай самабытнасці, трэба верыць у карэннае паляпшэнне сітуацыі. Калі ж песімістычныя настроі адносна ажыццяўлення беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння шырокія маштабы набудуць і сярод інтэлігенцыі, у яе не застанецца аніякай магчымасці быць рухавіком грамадства, і яно немінуча будзе набліжацца да свайго скону. Слушная думка нашага славутага земляка, кіраўніка паўстання 1794 года Тадэвуша Касцюшкі: "Нацыі, якая імкнецца да незалежнасці, неабходна верыць у свае сілы", лічу, можа, дапамагчы вярнуцца на адраджэнскі шлях усім тым, хто выйшаў са змагання за нацыянальныя ідэалы толькі таму, што моцна зняверыўся ў рэальнасці адстаяць іх. І ўсё ж гэта ажыццявіма, толькі патрэбныя велізарныя, тытанічныя намаганні, у дзесяткі разоў большыя, чым іх прыкладвалі да апошняе пары.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар**



# ЁН УМЕЎ СПАГАДАЦЬ

**Споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння Міколы Міхайлавіча Грынчыка (1923—1999), беларускага літаратуразнаўца, крытыка і педагога, доктара філалагічных навук, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, пісьменніка. Усе, хто ведаў Міколу Міхайлавіча, працаваў з ім, часта кантактаваў, успамінаюць яго як вельмі чулага, добрага, душэўнага чалавека. Ён кожнага разумеў, кожнаму спагадаў...**

**Нарадзіўся Мікола Грынчык у сялянскай сям'і ў в. Быцень (дзе і пахаваны) — цяпер Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці. У гады Вялікай Айчыннай быў звязаны з падполлем, ваяваў у партызанах. Скончыў Гродзенскі педінстытут (філалагічны факультэт), працаваў настаўнікам у г.п. Вялікая Бераставіца на Гродзеншчыне. Закончыў аспірантуру Інстытута літаратуры, быў навуковым супрацоўнікам гэтага інстытута. З 1980 года ўзначальваў кафедру беларускай мовы і літаратуры Мінскага інстытута культуры. Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені і медалямі.**

**Літаратуразнаўчая дзейнасць прафесара М. Грынчыка была прысвечана даследаванню творчасці нашых класікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і інш. Сааўтар другога тома "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры". Аўтар навуковых прац "Максім Багдановіч і народная паэзія", "Аркадзь Куляшоў: Крытыка-біяграфічны нарыс", "Шляхі беларускага вершаскладання" і іншых навуковых артыкулаў, што друкаваліся ў газетах і часопісах, навуковых зборніках. Быў рэдактарам многіх навуковых выданняў.**

# ЯЛІЗАЎСКАЯ «ВЕЧАРЫНКА»

**У кіраўніцы народнага фальклорнага ансамбля "Вечарынка" Дома культуры мястэчка Ялізава Асіповіцкага раёна, што на Магілёўшчыне, Джэмы Рабавай сёлета — 50-гадовы юбілей. А сама "Вечарынка" ў наступным годзе адзначыць сваё трыццаць.**

**Пачалося ўсё з таго, што пры ялізаўскім Доме культуры ў 1974 г. быў створаны ансамбль, зарыентаваны на традыцыю беларускіх "пасядзелак". Яго і назвалі "Вячоркі". Тут сабраліся рабочыя, прадстаўнікі інтэлігенцыі, пенсіянеры. Акампанаваў гурту музыкант-аматар Мікалай Баразна. "Вячоркі" адразу палюбіліся ва ўсім раёне.**

**Праз 5 гадоў кіраваць ансамблем пачала выпускніца Магілёўскага музычнага вучылішча імя М. Рымскага-Корсакава Джэма Рабава. Дзякуючы яе прафесійнаму падыходу, энтузіязму, а таксама захопленасці ўдзельнікаў калектыву спевамі, прыкметна вырас іх выканальніцкі ўзровень. З'явіліся ў рэпертуары апрацоўкі народных песень у 3, 4 галасы з суправаджэннем і без. Праграму "расквецілі" танцавальныя рухі, сюжэтныя сцэнкі замалёўкі. Ансамбль пачаў штогод удзельнічаць у раённых і абласных аглядах мастацкай самадзейнасці, атрымаў шэраг грамат і дыпломаў.**

**У 1996 г. ён быў ганараваны званнем "народны" і тады ж перайменаваны ў "Вечарынку".**

**Сёння яго касцяк — людзі, якія ў складзе ансамбля з дня заснавання. Апошнім часам рэпертуар папоўнілі праграмы "Запрашаем на вячоркі", "Кірмаш на сучасны лад", "Каляды", "Уваходзіны" ды інш. Пяць гадоў таму ў якасці канцэртмайстра пачаў працаваць мясцовы самадзейны кампазітар Віктар Шышкавец, і цяпер у "Вечарынкі" шмат яго песень на вершы А. Тамашэўскага.**

**"Вечарынка" застаецца самым папулярным ансамблем у Ялізаве і збірае аншлагі на сваіх шматлікіх канцэртах.**

*Лідзія МАХІНА*

**г. Магілёў**

ПАДАРОЖНАЕ АПАВЯДАННЕ

# КРОПЛІ ДАЖДЖУ Ў ПАРЫЖЫ

**Адам ГЛОБУС**

Вымыты дажджом і выстуджаны ветрам, як самалётная сталь перад узлётам, так Парыж выглядаў па дарозе з аэрапорту.

Пасяліліся мы з дачкой у маленечкі гатэль. Рассоўванне прасторы з дапамогаю люстраных паверхняў — вельмі парыжскі архітэктурны прыём.

"Чакаю на вуліцы," — кажу Ядзі.

Жанчына просіць запальнічку. Такая мілая. Дачка выходзіць з гатэлю. Жанчына мне не падабаецца, вядома, не падабаецца адразу і назусім.

Паўтарагадзінная прабежка — шпацыр па вільготным і сонечным вуліцам. Бляск такі, што вымывае і высляпляе думкі і рэагаванні. Лёгкі водар ільнянога алею, што разліваецца па вуліцы, нагадвае мне пра жывапіс, хлеб і прамінулую маладосць.

Ядзя фатаграфуе чырвоную браму. Ядзя выбірае абутак. Ядзя прымервае куртку. Ядзя — любімая дачка.

"Парыж — успамін пра культуру, пра імперыю, пра мастацтва, пра веліч..." "Успамін?" — перапытвала дачка. Не адказаў. Завярнуў у кітайскі рэстаран.

Ядзя набрала крыветак і з'есці не змагла. Так яны, ружовабокія, і засталіся плаваць у шчыльнай алейнай поліўцы. Перанатоленасць — недаедзеныя крыветкі.

"Пайшлі ў музей Пампіду?". "Пшлі".

Кіламетровыя чэргі ў Меку найсучаснага мастацтва. Побач пусты сабор. Готыка, святло вітражоў. Чаго-чаго, а мастацтва ў ім больш. Піплам трэба чарга. Бог сведка, ім патрэбна не мастацтва, а чарга па мастацтва.

Мы маўчым у саборы.

У падобных збудаваннях выспявала мара пра хмарачосы. Да нас падышоў чалавек з пляцёнай талеркаю для ахвяраванняў, і я кінуў 50 цэнтаў на рэстаўрацыю гатычна-хмарачоснай думкі.

Цень пташкі імкліва перакрэсліў алтарны вітраж і нагадаў пра святы дух, пра прысутнасць Бога тут і цяпер.

"Ты бачыла цень пташкі?" "Нельга сфатаграфаваць," — заўважыла Ядзя.

Намерваўся сказаць ёй: "Каштоўнасці з калоній прыйшлі ў Парыж разам з гаспадарамі, мурынамі і арабамі. Нельга выпампаваць нафту і не атрымаць у суседзі жыхароў пустэльні. Нельга выграбсці алмазы і не пусціць у краіну афрыканцаў. Прыродныя каштоўнасці немагчыма спажываць без гаспадароў зямлі, з якой бяруцца даброты. Парыж перанасычаны чужымі каштоўнасцямі і эмігрантамі. Гэта гняце. Узнікае жаданне вярнуць усё назад: афрыканцаў у Афрыку, арабаў на бераг Ніла, палякаў пад Варшаву. Разумею, немагчыма. Хочацца дамоў. Ад настальгіі памíралі ў Парыжы. Паэты памíралі, афіцыянты заставаліся жыць". Не гавару, як і такое: "У антыкварах старэе беспрытульная веліч, парэшткі французскай імперыі. Золата тускнее, канапы скасабочваюцца, карціны чарнеюць. Францыя правальваецца ў пазамінулае стагоддзе, правальваецца з храбусценнем хранцузскіх батонаў".

Гладкае аранжавае неба, што можа... Нічога не можа. І каб неба без нічога, каб пустое... І не важна дзе ты... У Парыжы ўтульней пад такім небам. А можа, і не ў Парыжы... Калі ўжо ўбачылася такое неба ў Парыжы,





значыць лёс — убачыць маё-сваё неба і над Парыжам.

"Табе падабаецца неба?" "Неба, як неба. Парыж — прыемны гарадок, але я люблю Лондан," — у Ядзі прапаў настрой, зламаўся фотаапарат; а ў мяне настрой быў.

Вечная тэма сабачага лаўна на парыжскіх ходніках, не хацелася ўступаць. Але і лайно сабачае не сапсавала настрой.

Настрой упаў, калі Ядзя наступнай раніцаю адмовілася ісці ў Луўр.

Мурын у метро пазяхаў. Нядзеля. Хацелася спаць, я ехаў у Луўр адзін, Ядзя накіравалася ў музей Усходу, да Буды. Мурын сваім цукрова-заразным пазяханнем усю маю ўзнёсласць вярнуў у грукатлівую будзённасць. Ён зняў чаравік. Адзін. Шэрая шкарпэтка.

Спакваля нядзельнасць перамагла.

Гіпапатам блю. Блакітны, блю, гіпапатам. Ну і ну, у Луўры гіпапатам з Егіпта, блю, каменны, цяжкенькі, ажно скрасці карціць, блю. Любуюся, не налюбуюся, блю.



У Луўры мармуровае святло і прахалоднае золата.

Так і чакаў: крэслы і сталы выштукаваныя ў стылі ракако вось-вось ператворацца ў аленяў і паскачуць па паркету, па кілімам на волю...

Ложак караля выглядаў непрыстойна, бо падобны да тэатральнай дэкарацыі, больш за тое, ён нагадваў алтар у саборы сярэднестатыстычных памераў, дзе замест гатовага чалавека, ідзе працэс стварэння бога-чалавека. Зрэшты, яны сябе лічылі паўбагамі. Народ не дараваў каралям памылкі. Хаця і народ абмыліўся, убачыўшы ў голай дупе караля ззянне сонца.

Леанарда — адра... адранаеЛ!

Разглядаючы нататнікі Леанарда, пераканаўся: памер малюнка не мае аніякага значэння для мастацтва. Для музея мае, чым меншы — тым лягчэй захоўваць.

Кінулася ў вочы гермафрадычнасць леанардаўскіх вобразаў. Яны проста людзі? Проста чалавекі? Ці проста Бог, калі ёсць Бог?

Нататкі Леанарда — адзіныя кнігі на ўвесь Луўр, у невымяральнай экспазіцыі. Дастаткова!

Кнігі трэба выдаваць невялікія, дакладна, маленькія.

Менавіта ў Луўры захацелася дадаць у славянскую міфалогію пару-тройку монстраў, запазычыць у сярэдневечных франкаў і перамаляваць на свой капыл. Ну чаму у нас няма Капыльніка, які ўсё чыста спрашчае, пакідаючы чалавеку адно вока, адно вуха і адну руку.

З тысяч кніг у кнігарні я выбраў мініяцюры пра Эдэм, бо заўважыў, што Адам і Ева ўвесь час там снедаюць, як я з жонкаю.

Сняданак на траве — рай.

Вячэра, нават таемная, блізкая да пекла.

Кніга — канцэнтрат разумовай дабрадзейнасці-зладзейнасці. Добра відаць: каталог выставы больш прадуманы за выставу. Каталог музея Пампіду больш кампактны і ёмкі за музей. Час каталогаў, анталогіяў і хрэстаматый? Пэўна.

Разглядаючы ў кнізе віхрасты партрэт Ван Гога, думаў пра ўбоства мастакоўмалпавальнікаў. Ну ні фіга яны не падобныя ні да Ван Гога, ні да Гагена, ні да саміх сябе.

Хацелася б каб Ядзя была падобная да мяне. Каб яна любіла Луўр. Каб шанавала мае каштоўнасці. Расхацелася, калі Ядзя папрасілася ўзняцца на Эйфелеву вежу, каб фатаграваваць панарамы.

Выпаліў я цыгарэту на вежы і жонцы патэлефанаваў, бо ў цябе не адказваў тэлефон.

Званкі з Парыжа дамоў — снабізм? Усё яшчэ так. Заўтра будзе банальнасцю і звычайнасцю, а сёння — дэманстрацыя ягамосці. Заўтра не буду званіць з Парыжа ў Менск. Заўтра — умоўнасць. Учора, здаецца тое было ўчора, з Парыжа званіў мне тата, званок запомніўся на ўсё жыццё. Званок прасвідраваў дзірку ў жалезнай заслоне паміж Захадам і Усходам. Учора званок з Парыжа быў дысідэнцтвам.

Сягоння дысідэнцтва — хаванне думак ад дзяцей? Дысідэнцтва — пачуццё сораму.

Парыжскі дождж — стан душы, сум і празрыстасць, цярплівасць і спакой, утульнасць і жаданне затрымацца ў кавярні за каваю і назіраць за парадам парасонаў. А яшчэ, жаданне перабіраць вобразы, што сарамліва схаваў ад дачкі.

Некаму завялікае шчасце — піць каву ў парыжскай кавярні, для нас — звычайнае. Не намагаюся я чытаць Вальтэра ў арыгінале, з мяне дастаткова і та-

го, што разумею размову шумлівых наведнікаў, якія распавядаюць па-польску показкі пра жаночыя дупы. Намагаюся прымусіць дачку чытаць Вальтэра па-французску і не хачу, каб яна ўслухоўвалася ў дурнаватыя жарты.

Ядзя чытае па-фанцузску Экзюперы пра маленькага прынца.

Я заняты сваім...

Парыжскай эротыцы не стае вільгаці і цялеснасці. Яна высушаная, выпетраная, выпендронная, аблітая туалетнай вадою з



моцным спірта-спірытычным пахам. Яна шорсткая і дробязная. Дух маркіза дэ Сада лунае над Парыжам. Мне ён надакучыў.

Думаеш у Парыжы ўсе жанчыны Жаны? Не, тут Жулі, Рэгіны, Франсуазы, Заразы, Лахудры і Паразы, але ўсе яны д'Арк. Дакладна. Я бачыў аркі іх ног, паміж якімі свяціцца ружовая лямпачка спакусы.

Кіч, як цукеркі, з'ядае герояў, трафарэцічь, абсмоктвае і выплёўвае ў танныя крамы. Пасля ўслаўленняў герояў чакае яркая нікчэмнасць, а потым канчаткова знічтажэнне. Калі знічтожаць Жану д'Арк?

Прыгожа... Не так. Яркая лесбіянка, якая варыла нам каву, пайшла да тоўсценькай, нязграбнай і вульгарнай афіцыянткі і пачала гладзіць яе спачатку па таліі, а потым і па дупе. Непрыгожая крутнула клубамі, непрыгожая мае ўладу над прыгажуняй. Хай ненадоўга. Што надоўга? Цяжарнасць? Напэўна лесбіянкі пакутуюць падчас цяжарнасці каханых.

Жанчына ў парыку, у мужчыны лысіна. Нічога іх не ўратоўвае ні вясёласць, ні ўсмешкі поўныя рукатворных зубоў, ні адзежа з модных крам і ўпрыгожанні з золата, ні Парыж. Яны старыя і лысыя.

Дождж скончыўся. Мы вярнуліся ў гатэль.

Непрыемна робіцца, калі ў гатэлі нагадваюць, што ў нас застаўся адзін дзень. Нібыта мы не ведаем пра гэты адзін дзень.

З-за гадкага нагадвання спаў кепска.

Нарэшце самалёт. Заплюшчыў вочы і дагледзяў сны, недагледжаныя ў Парыжы пра маленькага прынца і Ядзю.

ФОТА Я. АДАМЧЫК



ПАМЯЦЬ

# ВЕРА: ДУША І ЛЮБОЎ

Прыгадаем выдатную піяністку і педагога...

Вера Лагвіненка — цудоўная піяністка, таленавіты і тонкі музыкант. Усё сваё жыццё яна прысвяціла навучанню маладых музыкантаў у сценах Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Аднак, гэта нельга назваць толькі "навучаннем" ці "выхаваннем". Вера Аляксееўна прываблівала сваімі адносінамі да музыкі, дарыла студэнтам дарагія мінуты паглыблення ў высокі свет вытанчанага і адначасова простага выканання Моцарта, Шуберта, Шапэна, Дэбюсі... Яна заўсёды верыла ў самыя добрыя, высакародныя якасці і магчымасці кожнага са студэнтаў, ды і кожнага з нас.

Якое слаўнае імя далі ёй бацькі: Вера! Сэнс гэтага слова так вызначае Святое Пісанне: упэўненасць у нябачным. І менавіта гэта нябачнае адухаўляе жыццё Асобы і жыццё твораў мастацтва... Мы, яе паплечнікі, заўсёды адчувалі незвычайнасць таленту Веры Аляксееўны, — і музыканцкага, і чалавечага. Адно гарманічна вынікала з другога, паколькі галоўным скарбам Веры была Душа. Выдатны абсалютны слых выяўляўся не толькі ў прафесіі, — усялякі душэўны фальш, несправядлівасць, няпраўда ранілі яе, прычынялі боль яе добраму сэрцу.

Вера Аляксееўна так любіла людзей, мастацтва, паэзію, прыроду, кожнае дрэўца і кветачку, — усё жывое! Заўсёды жывой была для яе і музыка, якая, бясспрэчна, з'яўлялася галоўным прызначэннем яе жыцця. Мы ўспамінаем чыстае аблічча Веры Аляксееўны, гучанне яе голасу, серабрысты смех... Слухаем запіс яе тонкага



выканання Шапэна... І мы разумеем: якое прыгожае жыццё працягваецца ў гэтых сугуччах. Нематэрыяльнае, нябачнае, неадчувальнае...

**КАЛЕГІ**

ЗАМЕЖЖА

**Кандыдат філалагічных навук, перакладчык Уладзімір САКАЛОЎСКІ нарадзіўся ў вёсцы Мальяканавічы Слонімскага раёна, скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут. Жыве ў Мінску, узначальвае аддзяленне беларуска-нямецкага грамадска-культурнага ўзаемадзеяння Інстытута Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Сёння Уладзімір Лявонцьевіч адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.**

## Уладзімір САКАЛОЎСКІ:

# «У АРХІВАХ ГЕРМАНІІ ЗАХОЎВАЕЦЦА ШМАТ МАТЭРЫЯЛАЎ ПРА БЕЛАРУСЬ ПЕРЫЯДУ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ»

**— Уладзімір Лявонцьевіч, раскажыце, калі ласка, нашым чытачам чым вы займаецеся?**

— Я ўсё сваё жыццё займаюся беларуска-нямецкімі сувязямі і перакладчыцкай дзейнасцю: з нямецкай мовы перакладаю на беларускую і з беларускай на нямецкую. Нават тэма кандыдацкай дысертацыі ў мяне была такая: "Беларуска-нямецкія літаратурныя сувязі перыяду Веймарскай рэспублікі".

**— Вы вельмі часта бываеце ў Германіі?**

— Вельмі часта. Выступаў і выступаю з дакладамі ў Мюнстэрскім, Кёльнскім, Гумбальтаўскім, Патсдамскім і ў іншых нямецкіх універсітэтах. Выдаў шмат даследчых кніг і кніг перакладаў.

**— А над чым вы працуеце цяпер?**

— Зараз я працую над другім томам "Беларусь і Германія ад Першай да Другой сусветных войн". Гэта збор дакументаў і матэрыялаў аб беларуска-нямецкіх культурных сувязях з 1915 да 1941 гадоў. Праз год-два такая кніга павінна выйсці з друку ў Германіі.

**— Уладзімір Лявонцьевіч, што цікавае вам удалося знайсці і, наогул, ці шмат у нямецкіх архівах дакументаў пра Беларусь?**

— Беларускіх матэрыялаў у архівах і музеях Германіі вельмі шмат. Найперш сустракаюцца архіўныя дакументы, звязаныя з Беларускай Народнай Рэспублікай 1918 года і з яе надзвычайнай місіяй у Берліне. Цэлы пласт вельмі цікавай і разнастайнай інфармацыі пра Беларусь належыць нямецкім газетам, што ў 1916—1919 гадах выдаваліся на тэрыторыі Беларусі, і якія да гэтага часу невядомыя нават нашым даследчыкам. Тут у першую чаргу хацелася б назваць "Газету 10-й арміі". якая змясціла больш за 7000 публікацый пра Беларусь, "Стражу Усходу", "Беластоцкую газету", "Гродзенскую газету", "Пінскую газету", "Навагрудскую газету", "Баранавіцкую нямецкую ваенную газету" і іншыя.

**— Хоць адну з гэтых перыёдычных газет вы маеце ў сваім хатнім архіве?**

— Маю ўсе нумары "Баранавіцкай газеты", якая выдавалася ў 1916—1917 гадах. У ёй шмат публікацый пра Шчару, пра мой родны Слонім, ёсць цікавыя фотаздымкі і малюнкі пра жыццё, архітэктуру і прыроду Слонімшчыны. Публікавалася ў той час многа вершаў пра горад над Шчарай, пра птушак, якія вадзіліся на берагах нашай рэчкі. У Слоніме тады служыў нямецкі афіцэр Шорлінг, які пісаў вершы пра Слонім і добра маляваў. Паведамляла гэта газета і пра жыццё немцаў, якія яны лекцыі тут чыталі, якія праводзілі мерапрыемствы і г.д. І, наогул у Германіі шмат каштоўных матэрыялаў звязаных з Гродзеншчынай і з Беларуссю наогул. Сёе-тое адшукваецца і публікуецца.

**— Што сёлета з вашых твораў пабачыла свет?**

— Вось нядаўна выйшла з друку перакладзеная мною з нямецкай мовы на беларускую кніга "Вырваны з агню". Яе аўтар — Вернер Мюлер. Гэта трагічныя старонкі знішчэння пінскага гета, незвычайная гісторыя пра тое, як нямецкі вайсковец зондэрфюрэр Гюнтэр Круль выратаваў з гета Пінска яўрэя Пятра Рабцэвіча і як апошні на працягу дзесяцігоддзяў настойліва шукаў свайго выратавальніка і дзякуючы Маргрэт і Вернеру Мюлерам змог знайсці і аддзячыць яму.

**— Уладзімір Лявонцьевіч, яшчэ ў 1961 годзе ў Кёльне пабачыла свет кніга Анджэя Цеханавецкага "Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба муз" ў Слоніме". Дзесяць гадоў назад яна выйшла ў Мінску па-беларуску ў вашым перакладзе. Раскажыце трохі пра аўтара гэтай манаграфіі Анджэя Цеханавецкага.**

— Анджэй Цеханавецкі — мастацтвазнавец, нашчадак старажытнага роду князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх — добра вядомы ў Беларусі сваёй грамадска-дабрачыннай і мецэнацкай дзейнасцю. Яшчэ ў 50-я гады ён праявіў цікавасць да зямлі сваіх продкаў, род якіх у XV стагоддзі перасяліўся ў Беларусь і шмат зрабіў для яе эканамічнага і культурнага развіцця. Бацька Анджэя Ежы Цеханавецкі быў дыпламатам царскай Расіі, а затым і Рэчы Паспалітай. У час Першай сусветнай вайны ён пераехаў з фальварка Бачэйкава (Віцебшчына) у Варшаву, дзе ў 1924 годзе і нарадзіўся Анджэй. Сваё дзяцінства сын дыпламата правёў у Будапешце. У вайну ўдзельнічаў у Варшаўскім паўстанні, а затым вывучаў гісторыю мастацтваў у Ягелонскім універсітэце. У Цюбінскім універсітэце (Германія) абараніў доктарскую дысертацыю пра тэатр Агінскага ў Слоніме, на аснове якой і была выпушчана гэтая кніга. У 1981 годзе ўпершыню наведаў Беларусь. Аб'ехаўшы мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю сваіх продкаў, спадар Цеханавецкі быў моцна ўражаны, калі ўбачыў жудасную карціну запусцення, калі былыя фальваркі, культавыя і архітэктурныя помнікі ператварыліся ў стадолы і фермы, а велічныя паркі і маёнткі зараслі дзікай травой. Гэта выклікала тады ў яго *не толькі абурэнне, але і прыток* сіл, энергіі для актыўнага ўдзелу ў працэсе адраджэння Беларусі. Менавіта дзякуючы яму былі вернуты старажытны слуцкі пояс, рэдкае гродзенскае выданне 18 стагоддзя, малюнак Нясвіжа 19 стагоддзя і іншыя каштоўнасці. Акрамя таго, Андрэй Цеханавецкі з'яўляецца ініцыятарам і фундатарам многіх міжнародных навуковых сустрэч па праблемах мінуўшчыны Беларусі.

**— Чаму менавіта на вашу долю выпала перакладаць кнігу Цеханавецкага "Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" ў Слоніме"?**

— У час адной са сваіх паездак Андрэй Цеханавецкі зрабіў захады аб перакладзе яго кнігі на беларускую мову. І так атрымалася, што перакладчыкам стаў я. Пэўна не апошнюю ролю адыграла і тое, што Слонімшчына — мая радзіма. Адклаўшы многія важныя справы, я пераклаў манаграфію пра тэатр Агінскага ў Слоніме на родную мову і яна ў 1993 годзе выйшла з друку. Сёння кніга Цеханавецкага патрабуе перавыдання, таму што многія яе нават і не бачылі, а хацелі б мець у асабістай бібліятэцы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



У адной з бібліятэк Германіі.

